куды пераехала і сям'я пісьменніка. Разам прыйшлося жыць нядоўга, бо ў чэрвені 1940 года А. Мрыя зноў арыштавалі і асудзілі на пяць гадоў лагераў. На гэты раз пісьменніку інкрымінавалі прыналежнасць да некалькіх антысавецкіх арганізацый адначасова. Як сведчыць сам аўтар у лісце «Другу працоўных І. В. Сталіну», ён, нягледзячы на невыносныя ўмовы, знаходзіў сілы і магчымасці пісаць: «За гэты час з 1934 года я напісаў многа навел, аповесцей і раман з лагернага жыцця "Жывы дом"». Лёс гэтых твораў і на сёння невядомы.

За доўгія гады цяжкіх выпрабаванняў здароўе пісьменніка было надарвана, і ён, цяжка хворы, па гэтай прычыне быў вызвалены ў 1943 годзе з лагера. Ёсць версія, што па дарозе да сям'і А. Мрый быў забіты. Афіцыйнае пасведчанне сцвярджала, што А. Мрый памёр ад паралічу сэрца. Рэабілітаваны пісьменнік у наш час, і, нарэшце, творчасць яго заняла пачэснае месца ў беларускай літаратуры.

## «Запіскі Самсона Самасуя»

**Гісторыя напісання, праблематыка, жанр твора.** Раман ствараўся ў другой палове 1920-х гадоў, калі ў літаратурных колах разгарнулася дыскусія аб непатрэбнасці сатыры ў сацыялістычнай дзяржаве. У такой сітуацыі неабходна аддаць даніну павагі грамадзянскай смеласці А. Мрыя, які насуперак абставінам звярнуўся да негатыўных праблем таталітарнага грамадства: праблемы сужыцця чалавека з дыктатарскім рэжымам, станаўлення і росквіту пры ім камандна-бюракратычнай сістэмы, яе «неўміручасці», праблемы дэгуманізацыі чалавека і грамадства, абясцэньвання, знішчэння духоўнасці, агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей ва ўмовах аўтарытарнай дзяржавы. Асноўны пафас рамана — сатырычна-выкрывальны.

У 1929 годзе раман быў надрукаваны ў часопісе «Узвышша» і адразу заваяваў папулярнасць сярод чытачоў. Імя Самсона стала вядомай мянушкаю абмежаваных людзей, кар'ерыстаў, прыстасаванцаў. Вядома, што ў Самасуя быў

прататып — былы старшыня Цэнтральнага бюро краязнаўства БССР Казак: «Камуніст з 1917, былы вясковы настаўнік, вельмі абмежаваны, бяздарны і самазадаволены чалавек». Тыповыя рысы Самасуя і спісаны з Казака, які пазней даваў паказанні супраць А. Мрыя. Але сацыялагізатарская крытыка абвінаваціла пісьменніка ў «ачарненні» савецкай рэчаіснасці і асудзіла твор, назваўшы раман «злосным насмешкай над савецкай культурнай рэвалюцыяй, пасквілем на савецкае жыццё», а самога аўтара «рэакцыйным пісакам, што руйнуе асновы новага жыцця», контррэвалюцыянерам. Ніхто нават не спрабаваў даць аб'ектыўны аналіз твора. У свет выйшлі першыя дзве часткі рамана, пасля нападак крытыкі друкаванне твора было спынена. Трэцюю частку рамана пісьменнік спаліў. Больш пяці дзесяцігоддзяў раман хавалі ад чытача ў архівах.

Трэба адзначыць, што твор «Запіскі Самсона Самасуя» з'яўляецца першым і адзіным дасканалым вопытам у жанры сатырычнага рамана. Сярод буйных жанраў вядомы сатырычныя аповесці 1920-х гадоў «Голы звер» М. Зарэцкага, «У іхным доме» Р. Мурашкі. Літаратуразнаўцы Д. Бугаёў, І. Чыгрын схільныя адносіць «Запіскі» таксама да жанру аповесці. Але шырыня ахопу грамадскага жыцця, вялікая колькасць персанажаў, значнасць, глыбіня даследавання ўзнятых сацыяльных, маральна-этычных праблем даюць падставы пагадзіцца з думкай самога аўтара, які лічыў свой твор раманам. Пісьменнік выбраў арыгінальную форму рамана — дзённік, які вядзе галоўны герой. Форма дзённіка найбольш прыдатная для самараскрыцця Самасуя. Прыём самавыяўлення героя найбольш адпавядаў не толькі творчай манеры мастака, але быў проста неабходны для сатырыка, які многае прадбачыў у тых неспрыяльных умовах.

**Самасуй і самасуеўшчына.** Вобраз галоўнага героя неадназначны. Ужо само імя і прозвішча яго невыпадковыя. Імя Самсон поўнасцю адпавядае знешнасці фізічна развітага 35-гадовага асілка. Ён сябе характарызуе як «статнага, белакурага, з пышнымі вусамі і ўздзёрнутым носам мужчыну», «...высокага, асаністага, са свежым мужным тварам», вылучае «напоўненыя спакоем і сілай вочы, улад-

на заціснуты рот, упэўненыя рухі». Як бачым, герою нельга адмовіць у самалюбаванні і самаўпэўненасці. Прозвішча ж Самасуй поўнасцю адпавядае характару героя, які сам усоўваецца ва ўсе справы, незалежна ад таго, датычацца яны яго ці не. Нельга не заўважыць і тое, што імя і прозвішча пачынаецца са слова «сам», а гэта дае падставы гаварыць пра эгаістычную сутнасць характару. І сапраўды, герой празмерна паважае і любіць сам сябе, лічыць сябе выключнай асобай. Яго жыццёвым лозунгам становіцца заклік: «Няхай жыве мая асоба!» Але гэта не такі просты чалавек, як можа здацца на першы погляд.

Сялянская хітрасць, эгаістычная абачлівасць і пэўная іронія прасочваюцца ў самааналізе героя, яго спробах прыўзняцца над сабой і абставінамі. З дзённіка мы даведваемся, што мінулае ў Самасуя багатае, але ён не вельмі любіць гаварыць аб ім, таму што ўсё жыццё шукаў выгаднага месца, будучы прайдзісветам, адарваным ад зямлі, ад сваіх каранёў: «свет аб'ездзіў, усе гарады абнюхаў, ды нідзе прыстану не знайшоў», «...15 год ездзіў па свеце, некалькі разоў сядзеў пад арыштам», «быў харчагентам», «з вялікай аглядкай ваяваў за сацыялістычную бацькаўшчыну, здаўшы белым з камбатам Арахвейчыкам чатыры кулямёты». Гэта чалавек без усякіх прынцыпаў, шукае лёгкага хлеба, не прывучаны да сялянскай працы, якою грэбаваў, але сваім мужыцкім паходжаннем умее карыстацца пры любым выпадку. Нават бацька, адпраўляючы сына на новае месца, разгадаў яго прыстасавальніцтва і пустаслоўе, бо той развучыўся ўжо і каня запрагаць. «Гэта табе не рэзалюцыі выносіць!» — такі прысуд дае Самасуй-старэйшы Самсону.

Адпаведнае месца Самасуй нарэшце знайшоў у савецкай установе — Шапялёўскім райвыканкаме на пасадзе загадчыка культаддзела. Дзейнасць на новай пасадзе характарызуе яго як дэмагога і бюракрата, які прывык прымаць пастановы, даваць каштоўныя ўказанні, змагацца, мітынгаваць, выступаць на сходах, напорыста праводзячы лінію партыі. Будучы «асноўным рычагом культуры ў раёне», Самасуй кіраваў дзейнасцю 80 настаўнікаў, а таксама атрымаў шэраг іншых абавязкаў, у тым ліку старшыні та-

варыства «Пагібель на буржуазею!», сябра жаночай камісіі, а таксама «раённай абортнай камісіі». Ён энергічна пачынае імітаваць працоўную дзейнасць, не задумваючыся пра разбуральны, дэструктыўны змест мерапрыемстваў новай улады, якія ён праводзіў у жыццё.

А. Мрый паказвае, як у асяроддзі новай савецкай чыноўніцкай сістэмы вырастае пачварная постаць самасуеўшчыны. Па прызнанні Самасуя, «далей падзеі адбываліся ў шалёным тэмпе»: сходы, вечарыны, пасяджэнні розных таварыстваў, трэніроўка позняй ноччу пажарнікаў, аблава на сабак, культурная рэвалюцыя. Здольнасці і імпэт Самасуя выліліся ў «сонечную кампанію», стварэнне «дзяржаўнага» музея імя таварыша Андросава (з бюстамі старшыні РВК таварыша Сома і сакратара райкама партыі таварыша Андросава, партрэтамі шапялёўскіх дзеячаў, «у тым ліку і маім»), «шалёную барацьбу з рэлігіяй», выданне газеты «Пераможны кліч шапялёўскага райвыканкама», арганізацыю навуковага таварыства «з 7 секцый і 18 падсекцый», напісанне трох трактатаў у Акадэмію навук. Прывядзем адзін з іх — «Пра фактары, якія рэгулююць навучальны год у раёне». «Навуковасць» працы Самасуя зводзілася да такіх вывадаў: «Я прызнаў, што галоўны фактар — свіння. Як толькі перастануць ганяць жывёліну ў поле, дык і пачынаецца сялянскі навучальны год. Практычны вывад: нацыяналізаваць усіх свіней БССР». Заключным этапам яго дзейнасці ў Шапялёўцы была пастаноўка п’есы «Жыццё наскочыла на ражон». Гэта далёка не поўны пералік дзеянняў Самсона Самасуя, праведзеных па яго ініцыятыве і пры яго ўдзеле. І ўсе яны маюць смешныя вынікі, бо даводзяцца Самасуем да абсурду, таму што сама ідэя іх, як паказвае сатырык, — «глупства і дзікунства».

Майстэрскае спалучэнне гумару, іроніі і гратэску дало магчымасць аўтару стварыць сапраўдны шэдэўр, які можна паставіць у адзін рад з творамі Ільфа і Пятрова, М. Зошчанкі, А. Платонава, Я. Гашака і інш. Іх збліжае смех, уласцівы кожнай характарыстыцы, кожнаму эпізоду, фразе, а то і асобным словам. Мова Самасуя прасякнута канцы-

лярызмамі, палітычнымі лозунгамі ў вывернутым выглядзе, газетнымі штампамі. У яго вуснах апалітызаваная лексіка ў спалучэнні з роднай гаворкай становіцца бязглуздзіцай, выкрываючы невука. Такая палітычная «эрудыцыя» становіцца здзекам з сялян. Але Самасуй не прыкладае ніякіх намаганняў, каб набыць пэўныя веды. Ведаючы, што яго дзейнасць бескантрольная, ён не шкадаваў пагроз арыштам, калі часам хто пратэставаў супраць яго бязглуздзіцы, і такім чынам дабіваўся парадку і аднадушнасці ў прыняцці рэзалюцый на сходах.

Як сцвярджае крытык П. Васючэнка, «унутраная логіка «Запісак» даводзіць наступнае: культ асобы спараджае вялікае мноства пераймальнікаў на месцах, прытым кожны з іх употай стварае культ уласнае “самасці”, уласнага “я”. І ў гэтым драбленні тое велічнае, непарушнае, чым ганарылася Сістэма, абарочваецца сваім пачварным, гратэскавым бокам».

Калі Самсон адчувае сапраўдную небяспеку для сябе, то своечасова праяўляе і знаходлівасць, і пэўны практычны розум, а то і хітрасць, і прадбачлівасць. Ён спрытна абыходзіць усе перашкоды на сваім шляху. Так здарылася ў час зацятай і напорыстай барацьбы Самсона з «антысамасуйным блокам», што ўтварыў у мястэчку яго супернік Лін. Адчуўшы вялікую пагрозу, Самасуй, каб разрадзіць атмасферу, бярэ адпачынак і падае заяву ў райкам аб паступленні ў члены партыі. Як бачым, Самасуй чуйна ўлоўлівае змены ў грамадскім жыцці, станаўленне адміністрацыйна-каманднай сістэмы, кіруючыя пасады ў якой належаць выключна членам камуністычнай партыі, і сам умела прыстасоўваецца да абставін.

Праз карыкатурную постаць дзеяча культуры, які разгарнуў кіпучую дзейнасць, праглядвае іншае аблічча, ужо небяспечнае і злавеснае. Самасуй прымае актыўны ўдзел у сходзе, на парадку дня якога было пытанне «аб пазбаўленні некаторых груп насельніцтва выбарчых правоў і прызнанні іх ворагамі ўлады». Ён ярасна абвінавачвае свайго ж былога сябра, філосафа Торбу, на так званым «таварыскім судзе», нахабна распараджаецца лёсам, маёмасцю «ку-

лакоў», вядзе ўпартую барацьбу з «антысамасуйным блокам», помсліва піша ананімкі. Усё гэта прадказвае змрочныя і страшныя падзеі, якія абрынуліся на рэспубліку ў канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў. Тады таксама ўпэўнена і жыццярадасна рабілі свае кар'еры падобныя самасуі, як назваў іх А. Мрый, — «паганыя людзі». «Культурная рэвалюцыя» і «прапаганда навукі ў масах» дасягнулі апагея ў дзейнасці Самасуя, калі ён для культработы выпісвае такія прылады працы, як «шкалу для вачэй, каб па колеру іх сістэматызаваць і падзяліць на класы насельніцтва раёна», «шкалу для валасоў», «набор меркі вагі і даўжыні для высвятлення будовы цела, твару, чэрапа ў шапялёўскага насельніцтва». Гэтыя намеры зусім не бяскрыўдныя, бо яны сугучныя расісцкім ідэям, якія былі ўзяты на ўзбраенне нацыянал-фашыстамі.

Неадназначнасць створанага А. Мрыем персанажа пацвярджаецца і яго акцёрскімі здольнасцямі, уменнем пераўвасабляцца не толькі на сцэне, але і ў жыцці. Ён нават, як сапраўдны акцёр, возіць з сабою вялікі гардэроб і апранаецца адпаведна канкрэтнай дзейнасці. Вялікую ўвагу Самасуй надае не толькі касцюму, але і позам, рухам, позіркам, завучвае патрэбныя фразы. Сам герой называе вынік уласнай шапялёўскай дзейнасці «фіналам», тым самым сцвярджаючы, што ўсё жыццё яго — спектакль. Гэтыя пераменлівасць, уменне прыстасавацца да любых абставін даюць магчымасць Самасую заўсёды быць жыццястойкім. Таму ён перакананы: «Ат! Пройдзе ўсё, а я застануся». Так яно і было: Самасуя звольнілі з пасады, але перавялі «ў акругу на больш адказную работу, як вытрыманага, бясстрашнага работніка», дзе ён атрымаў і належныя чыну прывілеі.

І сёння яшчэ надзённым з'яўляецца вызначэнне аднаго з герояў, што Самсон — «бытавая з'ява, што ў кожным раёне БССР ёсць свой Самасуй». Змяніўся іх знешні выгляд, лексічны запас, «гардэроб», але сутнасць самасуеўшчыны засталася той самай: яна зусім не бяскрыўдная і не бясшкодная, а заўсёды небяспечная. Сутнасць самасуеўшчыны — бюракратызм, дэмагогія, прыстасавальніцтва,

падхалімства, двудушнасць і агрэсіўная бездухоўнасць, памножаныя на прагматычны разлік і імпэт кар'ерыстацыніка. Гэтыя негатыўныя з'явы перашкаджаюць развіццю таго сапраўды сумленнага, высокамаральнага і таленавітага, што заўсёды жыве ў народзе. А часам гэтыя негатыўныя з'явы, якія выкрывае А. Мрый, проста падаўляюць усё станоўчае і становяцца негалоснай нормай жыцця, як гэта было на працягу доўгага перыяду ў нашай краіне. Гэтым страшная і небяспечная самасуеўшчына.

Сатыра пісьменніка прарочая. Герой прэтэндаваў на званне «сучаснага чалавека», бо добра ведаў жыццё, ішоў у першых радах будаўнікоў «новага быту». Сапраўды, у такім разуменні слова ён быў «сучасным чалавекам» — значыць, тыповай з'явай рэчаіснасці 1920-х гадоў, у гэтым значэнні слова ён сучасны і сёння як грамадскае зло. А. Мрый марыў, пэўна, пра цывілізаванае і сапраўды гуманнае грамадства, дзе людзі будуць кіравацца хрысціянскімі нормамі жыцця і дзе самасуі не змогуць знайсці сабе месца. Таму слова «сучасны» можна ўжываць у адносінах да Самасуя толькі ў двукоссі, як парадыйную характарыстыку.

**Грамадства, якое не прымае сатырык.** Перад чытачом паўстае рэчаіснасць 1920-х гадоў у сатырычным асвятленні аўтара, які паказвае, што Самсон — толькі дзіця свайго часу, якое імкнулася ўвасобіць «ідэал» эпохі. Пісьменнік выразна акрэслівае станаўленне каманднa-чыноўніцкай сістэмы, якая атручвала грамадскую свядомасць міфічнай ідэалогіяй, абязлічвала чалавека, робячы яго бяздумным выканаўцам чужой волі.

Дзеянне рамана разгортваецца ў звычайным беларускім мястэчку з характэрнай назвай Шапялёўка. Райвыканкам з'яўляецца асноўным месцам працы і надзейнай апорай як чыноўнікаў, так і грамадскіх дзеячаў, у якасці якіх выступалі найчасцей настаўнікі. Асяроддзе, у якім апынуўся Самсон, патрабавала «дзелавітасці», бяздумнай ініцыятывы, таму што планы былі вялікія, але нічога канкрэтнага і карыснага ў іх не было. Сатырык дакладна паказвае атмасферу гэтага бюракратычнага асяроддзя ўста-

новы 1920-х гадоў. Здаецца, работа кіпіць, бурліць, а на самай справе — пераліваецца з пустога ў парожняе.

Узначальвае райвыканкам таварыш Сом — вельмі моцны, флегматычны чалавек, «упарты, як вол». Апошняя якасць лічылася немалаважнай, пэўна таму таварыш Сом быў прысланы «выкараніць галавацяпства ў шапялёўскіх установах». Яскравымі сатырычнымі тыпамі характараў з'яўляюцца службоўцы розных устаноў: бухгалтар Лін, старшыня рэўкома Беларыбка, начальнік міліцыі Какоцька, тэлефаніст Свердзялюк, сакратарка Крэйна Шуфер, аграном Агнісцік, настаўнікі Юрлік, Мамон, Цыба, настаўніцы Зязюлька, Крутарожкава, паэт Гарачы, суддзя Торба, вучоныя-маскоўцы Курыца і Курапат і інш. Усе яны з'яўляюцца вінцікамі розных узроўняў Сістэмы, але не саступаюць адзін аднаму ў грамадскай загружанасці. Напрыклад, лепшы сябар Самасуя Мамон меў «вельмі складаныя абавязкі мужа, бацькі, сына, загадчыка, рэвізора сямі ўстаноў і прамоўцы на ўсіх пасяджэннях і нарадах». Бурная імітацыя працоўнай дзейнасці, мітынгі, сходы, кампаніі не замінаюць героям вырашаць адначасова і асабістыя пытанні. І тут таксама на першы план выступаюць самыя прымітыўныя сродкі — хітрасць, падман, шантаж, а то і проста фізічная сіла. Аўтар сродкамі іроніі і сарказму даводзіць, што ў шырокім ужытку былі розныя віды помсты, замаскіраваныя пад грамадскія справы (так, асабісты інтарэс да Крэйны Шуфер з боку Ліна і Самасуя стаў прычынай іх барацьбы на грамадскай арэне). У ход ішло напісанне ананімак-даносаў у розныя інстанцыі.

Героі твора з лёгкасцю прыстасаваліся да новай ідэалогіі, хоць яе прынцыпы і ідэалы для іх нічога не значаць у параўнанні з задавальненнем асабістых патрэб. Гэта пацвярджаецца адным з цэнтральных эпізодаў рамана, калі аўтар збірае на святочную маёўку ўсю шапялёўскую «эліту». Тут і раскрываецца неадпаведнасць паміж прэтэнзіямі на званне «свядомых будаўнікоў новага быту» і сапраўднай сутнасцю мястэчковых абывацеляў, якія клапоцяцца ў першую чаргу пра задавальненне прымітыўных патрэб. Характэрна і тое, што матэрыяльны дабрабыт кожнага

ўсталёўваецца за кошт выкарыстання пасад, — тым самым яны паразітуюць у грамадстве, якім кіруюць. У хвалёнай еднасці асабістага і грамадскага яшчэ відней становіцца мізэрнасць і нікчэмнасць духоўных запатрабаванняў гэтых «матэрыялістаў». Яскравымі сатырычнымі фарбамі малюе аўтар маральную разбэшчанасць так званых грамадскіх дзеячаў. Нават праявы сапраўдных пачуццяў іх не ачалавечваюць, а выяўляюць іх душэўную чэрствасць. Вось, як адзін з шапялёўскіх донжуанаў таварыш Лін прызнаецца ў каханні Крэйне: «Калі гляджу я ў твае вочы, забываюся на прафсаюз...»

А. Мрый стварыў характары персанажаў з дапамогай такіх сатырычных прыёмаў, як іронія, сарказм, шарж. Нездарма аўтар надзяляе іх «гаваркімі» прозвішчамі: Зязюлька, Крутарожкава, Курапат, Курыца і г. д. Тым самым падкрэсліваецца перавага больш жывёльных, чым духоўных пачаткаў у гэтых прадстаўнікоў новага грамадства. Супрацоўнікі райвыканкама ўсюды адчуваюць сябе як рыба ў вадзе, навучыліся прыстасоўвацца, адсюль і іх прозвішчы, як у рыбін: Сом, Лін, Беларыбка і інш.

Смех, якім прасякнута ўсё ў рамане, скіраваны супраць самазадаволенасці, бюракратызму, дэмагогіі, амаральнасці і бездухоўнасці, што вядуць да дэградацыі, краху чалавечай асобы і грамадства ў цэлым. Менавіта такое асяроддзе спрыяла росквіту «здольнасцей» Самсона Самасуя. Другарадныя персанажы выпісаны цікава і запамінальна, асобныя — з праекцыяй на пэўную з'яву жыцця 1920-х гадоў. Так, пра сітуацыю ў тагачаснай літаратуры нямала можа сказаць вобраз паэта Гарачага. За сваю неутаймаваную прагу творчасці ён атрымаў прозвішча Пушкінзона, а ўяўленне пра гэтую творчасць даюць ужо назвы паэм, «вытрыманых у стылі рэвалюцыйнага трубадурства»: «За тваім гарбатым носам нічога не бачу», «Кроў і жалеза», «Дні мае крутыя» і інш. Пісьменнік дасціпна высмейвае так званую «бурапену», характэрную для маладнякоўцаў рытарычнасць, дэкларацыйнасць, знарочыстую экстравагантнасць, штучную пафаснасць іх твораў.

З шэрагу сатырычных персанажаў суддзя Торба вылучаецца тым, што дзеянні, учынкі местачкоўцаў супра-

ваджаюцца яго трапнымі характарыстыкамі, у якіх адбіваецца жыццёвая праўда і ёсць зерне мудрасці, за што мы яму і сімпатызуем. Такія здольнасці прынеслі хітраватаму Торбе славу філосафа, а яго прыказкі, прымаўкі (якія сапраўды сыпаліся з яго вуснаў, як з торбы) распаўсюджваліся ў народзе, «перасякалі нават межы раёна». У гэтых выказваннях райкам разгледзеў ідэалагічныя хістанні суддзі, за што яго і прыцягнулі да грамадска-паказнога таварыскага суда, на якім Самсон выступіў «бічом справядлівасці», папярэдне прысвоіўшы запісную кніжку свайго сябра Торбы, перапісаўшы яе і завучыўшы на памяць. На судзе ішоў разбор «тэзісаў» Торбы, якія пэўным чынам характарызавалі савецкае грамадства: «чалавек мяркуе, а райкам кіруе», «увесь век вывучай наменклатуру», «што пішы, а што і ў розуме насі», «камсамол — парарастак, якому бацькавы спаднікі кароткія» і інш. Ужо тады здаровыя сілы з народа бачылі нараджэнне савецкай бюракратыі і крытычна ставіліся да яе, высмейваючы ў вуснай творчасці. А сам суд, калі дзейнасць Торбы была прызнана шкоднай, з'яўляецца дакладным прадбачаннем А. Мрыем тых страшных перамен у грамадстве, ахвярай якіх стаў ён сам.

**Майстэрства пісьменніка-сатырыка** выяўляецца ў адкрыцці значных сацыяльных праблем (што акрэслілі развіццё беларускай сатыры), глыбокім іх даследаванні з праекцыяй на будучыню, ва ўменні праз канкрэтнае паказаць тыповае, вылучыць смешнае, патэнцыяльна гумарыстычнае ў паўсядзённым жыцці. А. Мрый па-майстэрску валодае ўсімі адценнямі смеху, удала выкарыстоўвае такія сродкі сатырычнай завостранасці, як іронія, сарказм, гіпербала і гратэск. Галоўны герой трапляе ў шэраг камічных сітуацый, якія не толькі служаць выкрыццю непрымальных з'яў, выклікаюць абуральны смех («Вага расце», «Прапаганда агіды да старога» і інш.), але і смех добразычлівы, спачувальны («Гостры гастрыт»). Кожная фраза, слова маюць не толькі смехавы падтэкст («навухаданосар»). Асабліва трапна і дакладна выкарыстоўвае А. Мрый сродкі індывідуалізацыі персанажаў (партрэт, «гаваркія» прозвішчы, моўныя характарыстыкі). Звяртае на сябе ўвагу нацыя-

нальны каларыт рамана, які ствараецца не толькі малюнкамі жыцця беларускага мястэчка 1920-х гадоў, выяўленнем адметных рыс беларускага характару, але і выкарыстаннем багатых скарбаў народнай мудрасці — дасціпных прыказак, прымавак, выслоўяў, — якія дапамагаюць аўтару сцвярджаць здаровы, аптымістычны пачатак у жыцці.

### ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Раскажыце пра жыццёвы і творчы шлях А. Мрыя.
2. Якое значэнне ў беларускай літаратуры мае сатырычны раман А. Мрыя?
3. Вызначце тэматыку і праблематыку твора, яго жанр. Чым цікавая форма дзённіка?
4. У чым сутнасць Самсона Самасуя і самасуеўшчыны як тыповай з'явы рэчаіснасці 1920-х гадоў? Чым яна небяспечная?
5. Якой паўстае шапялёўская рэчаіснасць? Хто з другарадных герояў вам найбольш запомніўся і чым?
6. Вызначце сродкі сатырычнай завостранасці, якімі карыстаецца аўтар пры стварэнні вобразаў. Падмацуйце прыкладамі.
7. Абгрунтуйце думку пра ўніверсальнасць смеху ў рамане, які дае падставу аднесці твор да лепшых здабыткаў сусветнай сатыры.
8. Напішыце сачыненне на тэму «Канкрэтна-гістарычнае і агульначалавечае ў сатырычным рамане А. Мрыя "Запіскі Самсона Самасуя"» або «Самасуеўшчына як з'ява грамадскага жыцця 1920-х гадоў».



## *ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ*

### Сатырычны раман

Сатырычны спосаб адлюстравання рэчаіснасці заснаваны на камічным выкрыцці адмоўных жыццёвых з'яў, маральных і сацыяльных заган. У адрозненне ад гумару, які памяркоўна высмейвае недасканаласці жыцця, сатыра дае непрымірымую ацэнку злу ў розных яго праявах, адмаўляе яго з дапамогай з'едлівага, выкры-

вальна-знішчальнага смеху ці горкага «смеху скрозь слёзы». Сатырычны спосаб спасціжэння рэчаіснасці абумовіў жанравую прыроду многіх твораў: камедыі, пародыі, эпіграмы, байкі, памфлета, фельетона і інш. Шырока вядомы жанры сатырычнага верша, паэмы, аповесці, рамана. У сатырычным рамане даецца шырокі ахоп і ўсебаковы аналіз негатыўных жыццёвых з'яў сацыяльнага асяроддзя пэўнай эпохі, выяўляюцца шматлікія выразныя характары ў іх развіцці, псіхалагічнай напоўненасці, ствараюцца разнастайныя бытавыя малюнкі. Яскравым прыкладам з'яўляецца сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя, які можна лічыць шэдэўрам еўрапейскай сатыры разам з творамі М. Салтыкова-Шчадрына, Ільфа і Пятрова, А. Платонава, Я. Гашака і інш. Сатырыкі плённа выкарыстоўваюць прыёмы завастрэння, гіпербалізацыі адмоўных з'яў або рыс характару чалавека. Дзейснымі сродкамі сатырычнага ўздзеяння з'яўляюцца розныя адценні смеху: спачувальны, жартоўны, цынічны і інш. Характэрнымі прыёмамі сатырычнага майстэрства лічацца іронія, сарказм, гіпербала, гратэск, шарж і інш. Шырока распаўсюджаны прыём *іроніі* — затоенай насмешкі, калі даецца адмоўная ацэнка пэўнага чалавека ці з'явы праз знешне прыхільныя выказванні пра іх («тоненькі, як бочка»; «рады, як сабака палцы»). *Сарказм* — з'едлівая і гнеўная іронія, накіраваная супраць ганебных і шкодных з'яў жыцця. *Гіпербала* — мастацкі прыём перабольшання, пераўвелічэння ўласцівасцей, якасцей ці памераў чалавека або з'явы. *Гратэск* — спосаб выкрыцця, пры якім камічнае спалучаецца з фантастычным, карыкатурным, што выходзіць за рамкі верагоднага. З дапамогай гэтых прыёмаў створаны вобразы Самсона Самасуя ў рамане А. Мрыя, Мікіты Зносака ў трагікамедыі «Тутэйшыя» Я. Купалы, Кручкова ў «Пінскай шляхце» В. Дуніна-Марцінкевіча і інш.



# СТЭФАН ЦВЭЙГ

## (1881—1942)

Стэфан Цвэйг — сусветна вядомы аўстрыйскі пісьменнік, прадстаўнік рэалізму XX стагоддзя. Яго першая кніга вершаў «Срэбраныя струны» была надрукавана ў 1901 годзе. Апошні твор — раман «Амерыго» напісаны ў 1942 годзе. За сорак гадоў актыўнай літаратурнай дзейнасці С. Цвэйг стварыў выдатную гістарычную і біяграфічную прозу, пісаў нарысы, апавяданні, рэпартажы, драмы, вершы і паэмы. Пісьменнік добра арыентаваўся ў культурным і грамадскім жыцці «духоўнай айчыны — Еўропы» першых сарака гадоў XX стагоддзя. Аб гэтым сведчаць пасмяротна апублікаваныя кнігі С. Цвэйга. Сусветную вядомасць атрымалі цыкл гістарычных мініяцюр С. Цвэйга «Зорныя гадзіны чалавецтва» (1927—1936), яго раманы «Нецярпенне сэрца» (1939), «Угар ператварэння», а таксама біяграфічныя эсэ пра Вэрхана (1917), Ралана (1921), біяграфічны цыкл «Будаўнікі свету» (1920—1928), у які ўваходзяць нататкі пра Дастаеўскага, Дзікенса, Стэндаля, Клейста, Гёльдэрліна, Ніцшэ, Фрэйда і інш. Сярод герояў С. Цвэйга — зусім розныя асобы, часта процілеглыя паводле свайго светаўспрымання, маральных прынцыпаў (вялікі мараліст Л. Талстой і марнатраўца жыцця Казанова). Але ўсіх людзей, паводле С. Цвэйга, аб'ядноўваюць страсці, і ўсе яго героі імкнуцца да самасцвярджэння, самавыражэння, і кожны мае свой непаўторны лёс. Разам з тым пісьменнік услаўляў дзейнасць чалавека ў імя прагрэсу.

**Майстэрства С. Цвэйга-навеліста.** Сярод твораў, якія прынеслі аўстрыйскаму пісьменніку сусветную вядомасць, вызначаюцца псіхалагічныя навелы. Першая кніга навел С. Цвэйга «Першыя перажыванні» была апублікавана ў 1911 годзе. Потым з’явіліся навела «Страх» (1920), кніга навел «Амок» (1922), навела «Нябачная калекцыя» (1927) і кніга навел «Разгубленасць пачуццяў» (1927). С. Цвэйг распрацаваў сваю мадэль навелы. Падзеі ў яго творах звычайна адбываюцца ў час вандровак, то цікавых, то стамляльных, то па-сапраўднаму небяспечных. Наўмысна запаволена пачынаецца аповед пра звычайных людзей, затым дзеянне вельмі напружваецца і «сціскаецца»: жыццёвыя драмы разыгрываюцца за лічаныя гадзіны. Але гэта заўсёды галоўныя моманты жыцця герояў, калі адбываецца выпрабаванне асобы, правяраецца здатнасць да самаахвяравання. Ва ўступе да навелы звычайна прысутнічае згадка пра тайну, у аналітычным маналогу героя — раскрыццё гэтай тайны. Асновай навелы становіцца маналог-споведзь героя, які адкрывае пэўнаму персанажу сваю таямніцу. Гэтыя маналогі пабудаваныя стылістычна дакладна, яны псіхалагічна апраўданыя, таму чытач верыць у шчырасць споведзі героя. Чым захапляюць цвэйгаўскія навелы? Услед за вядомым аўстрыйскім псіхіятрам З. Фрэйдам С. Цвэйг адкрывае чалавека ў канфлікце з самім сабой, трапнымі мастацкімі сродкамі ўзнаўляе стан стрэсу, выкліканага страсцю, якая зацямняе розум. Прыгадваючы пэўныя падзеі і перажыванні, героі С. Цвэйга паглыбляюцца ў дэталёвы самааналіз. У лагічнасці і глыбіні гэтага самааналізу і заключаецца мастацкая прывабнасць псіхалагічных навел. Меладраматызм твораў С. Цвэйга абумоўлены тым, што героі лічаць сябе ахвярамі і перабольшваюць свае беды, няшчасці, канфлікты. Адметнасць С. Цвэйга-навеліста заключана яшчэ і ў тым, што ён звычайна выяўляе падзею не ў яе непасрэдным уздзеянні на герояў, а ўзнаўляе яе нібыта адлюстраванай чужой свядомасцю, пераказанай іншым чалавекам.

У 1936 годзе аўтар даў большасці сваіх навел найменне «ланцуга», апошнім «звяном» у якім стала антыфашысцкая «Шахматная навела». Яна была напісана незадоўга да

яго смерці ў бразільскім горадзе Петраполіс, куды С. Цвэйг эмігрыраваў з жонкай. Ён пайшоў з жыцця, прыняўшы вялікую дозу снатворнага. Пісьменнік доўгі час верыў, што Першая сусветная вайна — трагічнае непаразуменне, што яна застанецца апошняй вайной у свеце. Ён дарэмна спадзяваўся, што разам з пісьменнікамі-антыфашыстамі зможа папярэдзіць Другую сусветную вайну. З заключнай мемуарнай кнігі С. Цвэйга, якая вызначаецца моцнай элегічнасцю, вынікае, што сучасны свет пісьменнік катэгарычна не прымаў, а ўчарашні, лепшы, па яго меркаванні, свет беззваротна знік.

## «Нябачная калекцыя»

Гэты твор займае значнае месца ў літаратурнай спадчыне С. Цвэйга. У навеле створаны вобраз сляпога калекцыянера гравюр Герварта. Трапяткая любоў да мастацтва зрабіла жыццё ветэрана франка-прускай вайны адухоўленым, светлым, нягледзячы на слепату. У гэтай навеле праўдзіва, скупымі, але выразнымі штрыхамі С. Цвэйг узнаўляе жыццё нямецкай правінцыі адразу пасля Першай сусветнай вайны, калі Германія перажывала часы інфляцыі[1] і «вартасць грошай пачала выпарацца, быццам лёгкі газ».

Пачынаецца твор з апісання размовы выпадковых спадарожнікаў, якія едуць у адным купэ. Адзін з іх — вядомы берлінскі антыквар[2], ужо пажылы чалавек — апавядае гісторыю, якая надзвычай узрушыла яго. Антыкварная лаўка пана Р. была спустошана «новымі багацеямі», якія з’явіліся ў Германіі пасля Першай сусветнай вайны і ў перыяд інфляцыі пачалі скупляць творы мастацтва. З на-

---

[1] *Інфля́цыя* — абясцэньванне папяровых грошай у выніку выпуску іх для абарачэння ў памерах, якія перавышаюць патрэбы таваразвароту.

[2] *Антыква́р* — аматар або прадавец старадаўніх і каштоўных рэчаў.

дзеяй «расстарацца новы тавар» гаспадар лаўкі адшукаў у правінцыі Герварта — аднаго са сталых кліентаў, які набываў гравюры яшчэ ў бацькі і дзеда антыквара. Паводле меркаванняў героя-апавядальніка, гэты кліент павінен быў сабраць калекцыю гравюр, якая зрабіла б гонар любому буйному музею свету. У час знаёмства з калекцыянерам антыквар даведваецца, што нямоглы і бездапаможны калекцыянер колькі гадоў таму страціў зрок і зараз жыве толькі тым, што праглядае, дакладней — абмацвае, сваю калекцыю. Трымаючы ў руках свой скарб — эстампы[1], Герварт атрымлівае непараўнаную асалоду, адчувае вялікую радасць, як і раней, калі ён мог бачыць калекцыю. У такія моманты яго безжыццёвыя вочы святлеюць, у іх успыхвае думка, і цяжка зразумець: ці гэта проста водсвет паперы, ці святло ідзе знутры чалавека. Узрадаваны візітам знаўцы мастацтва, горды за сваю калекцыю, стары імкнецца паказаць госцю сваё багацце. Калекцыю Герварт збіраў шэсцьдзясят гадоў і дзеля гэтага ва ўсім адмаўляў сабе і сямейнікам.

Сляпы калекцыянер, якога крытыкі называюць самым шчаслівым з герояў навел С. Цвэйга, нават і не падазрае, што яго любімая калекцыя даўно распрададзеная за капейкі. І зараз ён мілуе, як жывых істот, не найдаражэйшыя арыгіналы, а пажоўклыя аркушы звычайнай паперы ці танныя рэпрадукцыі. З вуснаў рана пастарэлай дачкі Анны-Мары антыквар даведваецца, што яе бацька страціў зрок ад трывог, калі пачалася вайна. У свае семдзесят шэсць гадоў ён вельмі жадаў удзельнічаць у паходзе на Францыю, «а потым, калі аказалася, што армія рухаецца не так хутка, як у 1870 годзе, ён проста з сябе выходзіў і ўжо аслеп зусім». Герой-апавядальнік даведваецца таксама пра цяжкае становішча, у якім апынулася сям'я Герварта адразу пасля вайны, асабліва сястра, што страціла на вайне мужа і засталася з чатырма малымі дзецьмі. Каб дапамагчы выжыць ёй і пракарміцца самім, Анна-Мары са старэнькай

---

[1] *Эста́мп* — карціна — адбітак якога-небудзь відарыса, здымак з гравюры.

маці Луізай пачалі ўпотайкі прадаваць гравюры, як аказалася, несумленным пакупнікам. Чаму ўпотайкі ад калекцыянера? Таму што «ён сам ні за што не дазволіў бы, бо ён не ведае, як цяжка жыць...». Замест прададзеных высокамастацкіх твораў сямейнікі падклалі ў папкі звычайныя паперы. На такі «выратавальны падман» яны пайшлі, каб не пазбавіць бацьку і мужа «адзінай радасці, якая засталася ў яго жыцці», і захаваць яго веру, што ён з'яўляецца ўладаром каштоўнай калекцыі. Гэтая ілюзія захоўвала жыццё старога чалавека, бо нават падазрэнне, што гравюр няма, «адправіла б яго на той свет». «Спачатку вынясуць мяне, а толькі потым маю калекцыю», — запэўніваў стары. За свой найлепшы надмагільны помнік ён лічыў каталог гэтай калекцыі. Таму дачка моліць наведвальніка падтрымаць іх. І герой-апавядальнік згаджаецца на гэты падман.

З высокім мастацтвам псіхалагічнага аналізу С. Цвэйг падае кульмінацыйны момант прагляду «калекцыі». У гэты час усе героі перажываюць розныя пачуцці. Сляпы калекцыянер перажывае трыумфальную гордасць і прасвятленне. Госць адчувае «містычны жах» перад чыстым натхненнем і сілай унутранага бачання сляпога калекцыянера, які «ўзнёсся на светлым воблаку сваёй цудоўнай ілюзіі над сумнай рэчаіснасцю». Герой-апавядальнік адчувае павагу да старога і адначасова сорам, лічыць сябе нікчэмным гандляром, які прыйшоў у дом, каб выманіць гравюры. Дачка і жонка бязмежна ўдзячныя антыквару за падараваныя Герварту хвіліны ўзлёту, шчасця. С. Цвэйг дасягае вялікай выразнасці ў апісаннях старога, яго дачкі і жонкі, якіх параўноўвае з біблейскімі жанчынамі, самаахвярнымі паслядоўніцамі Хрыста. Для гэтага пісьменнік выкарыстоўвае спецыяльны прыём. Апавядальнік-антыквар захапляецца больш за ўсё адданасцю былога франтавіка сваёй нябачнай калекцыі і спачувае яго слепаце. Але аповед вядзецца так, што чытач, параўноўваючы імкненне рабіць дабро, сціплую мужнасць, самаахвярнасць дачкі і жонкі старога і прыгожую ілюзію калекцыянера, аддае перавагу маральным якасцям жанчын. Пасля паказу сваёй «нябач-

най калекцыі» стары «пяшчотна, нібыта жывых істот, пагладзіў спустошаныя папкі». Герою-апавядальніку «было жудасна глядзець на яго, але разам з тым і ўцешна», бо за ўсе гады вайны ён «ні разу не бачыў на твары немца выразу такой поўнай, такой чыстай асалоды». Каля яго стаялі жонка і дачка, «і было таямнічае падабенства паміж імі і фігурамі жанчын на гравюры вялікага нямецкага майстра, якія, прыйшоўшы да труны Спаса і пабачыўшы, што камень адвалены і труна пустая, замерлі каля ўвахода ў радасным экстазе перад здзейсненым цудам з выражэннем набожнага жаху на тварах». І «гэтая няшчасная, раздаўленая жыццём старая і яе старэючая дачка ўсміхаліся, азораныя светлай дзіцячай радасцю сляпога старога».

У навеле «Нябачная калекцыя» з рэалістычнай дакладнасцю выяўлена сутыкненне жорсткіх жыццёвых рэалій і высокага мастацтва. С. Цвэйг слушна лічыў мастацтва адной з найвышэйшых формаў чалавечай дзейнасці і бачыў яго місію ў духоўным пераўтварэнні чалавека. Разам з тым, вуснамі сваёй гераіні ён сцвярджае, што кошт чалавечага жыцця непараўнальна вышэйшы за кошт нават самых лепшых мастацкіх твораў: «Трэба ж было неяк жыць... а ці ж чалавечае жыццё, ці ж чатыры сестрыны сіроты не даражэй, чым гэтыя гравюры?..» Сапраўднымі каштоўнасцямі сцвярджаюцца чалавечнасць, спагада бліжняму, а не назапашванне матэрыяльнага багацця, няхай нават гэта збіранне высокамастацкіх твораў, шэдэўраў Рэмбранта[1] і Дзюрэра[2]. С. Цвэйга цікавяць непасрэдныя

---

[1] *Рэмбрант Харменс ван Рэйн* (1606—1669) — фламандскі мастак, жывапісец, аўтар партрэтаў, пейзажаў, нацюрмортаў, карцін на гістарычныя, біблейскія, міфалагічныя тэмы («Партрэт вучонага», «Урок анатоміі», «Начны дазор», «Тры дрэвы», «Даная», «Вяртанне блуднага сына», «Зняцце з крыжа», «Святое сямейства» і інш.).

[2] *Дзюрэр Альбрэхт* (1471—1528) — нямецкі графік і жывапісец, тэарэтык мастацтва. У гісторыю мастацтва ўвайшлі жывапісныя творы («Аплакванне Хрыста», «Распяцце», «Адам і Ева», партрэты імператара Максіміліяна, Ганса Імфога і інш.), гравюры на дрэве («Апакаліпсіс», «Пакуты Гасподні», «Жыццё Багамацеры» і інш.) і на медзі («Багамацер», «Меланхолія», «Рыцар, смерць і д'ябал» і інш.).

адносіны між сямейнікамі. Адносіны Анны-Мары і яе маці як да старога калекцыянера, так і да другой дачкі, якая засталася адна з чатырма дзецьмі, вызначаюцца любоўю і спагадай. І гэтая спагада дзейсная, бо патрабуе ад гераінь практычных учынкаў. Уздымаючы праблемы дабрыні, міласэрнасці, выяўляючы сумную карціну сучаснага яму свету, С. Цвэйг не адмаўляў яго. Нягоды «маленькага чалавека» пісьменнік бачыў не столькі ў матэрыяльнай нястачы і бяспраўі, колькі ў немагчымасці праявіць яго лепшыя гуманныя якасці. Герварт, калі і клапоціцца пра сваіх блізкіх, то толькі пра іх матэрыяльнае становішча. Прычым лічыць, што дабрабыт іх можа чакаць толькі ў будучым: «Але пачакайце, вы яшчэ будзеце багатыя; калі мяне не стане, вы будзеце такія багатыя, як самыя вялікія багачы ў Дрэздэне, багацейшымі за ўсіх у нашым горадзе, і тады вы ўспомніце добрым словам маё дзівацтва». Высакароднасць галоўнага героя навелы «Нябачная калекцыя» звязана толькі з яго заняткам, які і складае сэнс жыцця калекцыянера. Пісьменнік верыў, што жыццёвыя нягоды, пакуты людзей могуць быць пераадоленыя спагадай, літасцівасцю чалавека да чалавека. Дабро, лічыў пісьменнік, усё-такі павінна перамагчы і зрабіць жыццё лепшым.

Не менш чым маральна-этычныя праблемы, цікавяць аўтара «Нябачнай калекцыі» аналіз псіхічнага стану герояў, нюансы іх пачуццяў, змены настрояў. Так, калі Герварт паказвае сваю калекцыю, якая «працягвала з такой здзіўляльнай рэальнасцю жыць ва ўяўленні... сляпога, падманутага і такога кранальнага ў сваім няведанні чалавека», мы разам з апавядальнікам-антыкварам адчуваем «надзвычай вялікую палкую сілу бачання» сляпога чалавека. Герварт трыумфальна перагортвае, падрабязна апісвае, бурна ўхваляе гравюры. І раптам «страшная небяспека абуджэння парушыла самнамбулічны[1] спакой яго натхнёнага сузірання». Стары ўхваляў рэльефнасць адбітку рэм-

[1] *Самнамбулі́зм* — разлад свядомасці, калі чалавек у стане сну аўтаматычна выконвае звычайныя дзеянні (ходзіць, перакладвае рэчы і інш.).

брантаўскай «Антыёпы» і, «любоўна водзячы сваім нервовым, відушчым пальцам па ўяўных лініях», ён не знайшоў на гладкім лісце паперы так знаёмых яму паглыбленняў. С. Цвэйг па-майстэрску намаляваў змену настрояў калекцыянера: «Твар старога раптоўна азмрочыўся, голас стаў глухім і няўпэўненым». Выяўленне трапяткіх, супярэчлівых і зменлівых эмоцый герояў у навеле ўзмацняецца амаль сцэнічнай дакладнасцю дыялогаў. Калі апавядальнік-антыквар пачаў «з жарам і магчыма падрабязней» апісваць уяўную гравюру, «рысы сляпога зноў разгладзіліся, памякчэлі». Па меры таго як антыквар гаварыў, «твар гэтага грубаватага старога ваякі ўсё ярчэй і ярчэй асвечваўся прастадушнай, шчырай радасцю». І Герварт трыумфальна ўсклікнуў: «Нарэшце сустрэўся мне чалавек, які разумее!»

Засяродзіцца на ўнутраным свеце дзейных асоб дапамагаюць партрэтныя характарыстыкі. Ствараючы ёмістыя мастацкія вобразы, спасцігаючы тыповыя чалавечыя характары, С. Цвэйг-навеліст па-майстэрску выкарыстоўвае мастацкую дэталь. Калі герой-апавядальнік прыйшоў да калекцыянера, то пабачыў «выпраўленага на ўвесь рост старога, але яшчэ даволі моцнага складу мужчыну, з густымі шчаціністымі вусамі, у аточанай шнурам хатняй курткі паўваеннага ўзору». Пра старамоднасць, скупасць, незвычайнасць «маленькага чалавека» з правінцыі можна меркаваць паводле пісьмаў калекцыянера да ўладароў антыкварнай лаўкі: «Пісьмы яго былі напісаны каліграфічным почаркам і вельмі акуратныя, сумы падкрэсленыя па лінейцы чырвоным чарнілам і, каб пазбегнуць хоць нейкіх непаразуменняў, паўтораны двойчы, прычым ён выкарыстоўваў для сваіх пісьмаў вывараченыя старыя канверты і пісаў на чыстых лістах, якія засталіся ад чужых пісьмаў... Подпіс на гэтых асаблівых дакументах змяшчаў, акрамя імя, поўны ягоны тытул». С. Цвэйг ужывае і іншыя сродкі мастацкай выразнасці, у прыватнасці эпітэт, параўнанне, метафару, а таксама кантраст. Напрыклад, апынуўшыся ў нямецкай правінцыі, герой-апавядальнік здзіўляецца: як

«тут, сярод гэтых пошлых хацінак з іх мяшчанскай старызнай», мог жыць чалавек, які валодае найкаштоўнейшай калекцыяй шэдэўраў мастацтва.

С. Цвэйг справядліва прызнаны класікам як пісьменнік-гуманіст, які з болем і хваляваннем адстойваў свабоду асобы, славіў сваімі кнігамі подзвігі вучоных, мысліцеляў і мастакоў. Многія навелы С. Цвэйга экранізаваныя.

### ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Якая эпоха адлюстравана ў творах С. Цвэйга? Як аўтар адносіўся да тагачаснага жыцця? Якія гістарычныя падзеі ён не змог перажыць і чаму?
2. Пры распрацоўцы якіх жанраў талент пісьменніка раскрыўся найбольш поўна?
3. Паводле якіх крытэрыяў С. Цвэйг выбіраў герояў для сваіх твораў біяграфічнага жанру? Якую ролю ў чалавечым жыцці, на думку С. Цвэйга, адыгрываюць страсці? Пры дапамозе якіх мастацка-выяўленчых сродкаў раскрываецца асноўная тэма навелы?
4. У чым сутнасць канфлікту ў навеле «Нябачная калекцыя» і яе маральна-этычны сэнс? Якое месца ў жыцці людзей займае высокае мастацтва?
5. Напішыце сачыненне-разважанне на тэму «Сапраўдныя і ўяўныя каштоўнасці».
6. Ахарактарызуйце галоўнага героя навелы. Вызначце ўласныя і аўтарскія адносіны да старога калекцыянера.
7. Асэнсуйце ролю вобразаў жанчын у вырашэнні ўзнятых пісьменнікам праблем. Як вы ацэньваеце іх тайную распрадажу калекцыі? У чым заключана «выратавальнасць» іх падману?
8. Які роздум выклікаў у вас фінал твора?
9. У чым выявілася майстэрства С. Цвэйга-навеліста?

# МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

## (1901—1937)



У беларускай літаратуры 20—30-х гадоў XX стагоддзя творчасць М. Зарэцкага займае адно са значных месцаў. Таленавіты навеліст, раманіст, драматург, крытык, ён імкнуўся спасцігнуць праўду «новага» часу, паслярэвалюцыйнай рэчаіснасці, — праўду, выпакутаваную глыбокім роздумам над сутнасцю гістарычнага моманту, над лёсам чалавека ў складаных віхурах жыцця. З поўнай падставай М. Зарэцкага можна аднесці да першаадкрывальнікаў новых тэм і праблем у беларускай літаратуры. Менавіта эпоха рэвалюцыйных змен была важным арыенцірам у мастацкім асэнсаванні жыцця, у выпрацоўцы ўласнай гуманістычнай канцэпцыі, скіроўвала ўвагу да духоўных праблем часу.

Нарадзіўся Міхась Зарэцкі (Міхаіл Яўхімавіч Касянкоў) 20 лістапада 1901 года ў вёсцы Высокі Гарадзец на Віцебшчыне ў сям'і дзяка. Гады дзяцінства і юнацтва будучага пісьменніка прайшлі ў вёсцы Зарэчча непадалёку ад Шклова, куды быў пераведзены па службе яго бацька. Вялікі ўплыў на фарміраванне асобы будучага пісьменніка аказалі бацькі. У сям'і псаломшчыка Яўхіма Ануфрыевіча часта гучала музыка, чуліся спевы. Прыроджаныя здольнасці і талент хлопчыка выявіліся ўжо ў раннім дзяцінстве, калі ён навучыўся іграць на многіх музычных інструментах. У дзесяцігадовым узросце хлопчыка аддаюць у Аршанскае духоўнае вучылішча, а затым — у Магілёўскую духоўную семінарыю. Але рэвалюцыйныя падзеі 1917 года паскорылі рашэнне кінуць семінарскую вучобу. Цяжкі час і ма-

тэрыяльныя нястачы прымушалі змяніць шмат «прафесій». М. Зарэцкі працаваў перапісчыкам у вайсковай часці, царкоўным вартаўніком у роднай вёсцы, настаўнікам у пачатковай школе на Магілёўшчыне, загадчыкам Шклоўскага валаснога аддзела народнай асветы. З 1920 па 1927 год ён знаходзіўся на пасадзе палітработніка ў Чырвонай Арміі. Пазней у аўтабіяграфіі пісьменнік пісаў: «Бясконцыя блуканні з месца на месца, безліч назіранняў і ўражанняў, блізкае знаёмства з дзясяткамі і сотнямі самых разнастайных чалавечых тыпаў — усё гэта ўзбагаціла мяне невычэрпным запасам матэрыялу, які я выкарыстаў пасля ў цэлым шэрагу сваіх апавяданняў». Няма сумнення, што пражытае ў бурны, вірлівы, зменлівы час стала трывалай асновай для будучых нарысаў, п'ес, аповесцей, раманаў.

Пачатак літаратурнай дзейнасці М. Зарэцкага прыпаў на 1921 год. Сам пісьменнік згадваў пра гэта наступным чынам: «...я аднойчы ўбачыў вельмі яркі і незвычайны сон, уражанне ад якога не пакідала мяне на працягу цэлага месяца. Мне захацелася занатаваць гэтае ўражанне, і я стаў пісаць. Пісаў я доўга і вельмі старанна, абдумваючы кожную фразу, кожнае слова, закрэсліваючы, перакрэсліваючы і г. д. Працэс пісання мяне дужа хваляваў і ў той жа час падтрымліваў свежасць уражання, якое штурхала мяне на гэту працу. Кончылася тым, што старанна перапісанае апавяданне я паслаў у рэдакцыю "Савецкай Беларусі", аднак без усякай надзеі на яго надрукаванне».

Творчы рост М. Зарэцкага-пісьменніка на пачатку 1920-х гадоў быў надзвычай імклівы. Услед за шэрагам апавяданняў, змешчаных на старонках «Савецкай Беларусі», выходзяць зборнікі апавяданняў «У віры жыцця» (1925), «Пела вясна» (1925), «Пад сонцам» (1926), «42 дакументы» і «Двое Жвіроўскіх» (1926). З 1924 года М. Зарэцкі становіцца сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Хоць, як адзначаюць даследчыкі, ідэалагічныя догмы, характэрныя для творчасці многіх калег М. Зарэцкага па «Маладняку», не сталі дамінуючымі нават у ранніх творах гэтага мастака. Рэдкі талент пісьменніка-аналітыка дазваляў М. Зарэцкаму шчасліва пазбягаць ілюстрацыйнасці, схематызму, дэкларацыйнасці, што вылучала яго сярод сяброў-малад-

някоўцаў. Такія апавяданні пісьменніка, як «Цішка Бабыль» (1922), «Як гэта часам трапляецца», «З нашых дзён», «У віры жыцця» (1923), «Камсамолка» і «Як Настулька камсамолкай зрабілася» (1925), дзе прысутнічаюць элементы маладнякоўскай паэтыкі (увага да побытавых падрабязнасцей, узмоцнены лірызм, пэўны схематызм і інш.), усё ж вылучаюцца адметным падыходам аўтара ў адлюстраванні новага часу.

Аб тым, што ідэйныя і эстэтычныя прыярытэты М. Зарэцкага разыходзіліся з маладнякоўскімі ўстаноўкамі, сведчыць выхад пісьменніка ў 1927 годзе з гэтай арганізацыі і ўступленне яго ў новае аб'яднанне «Полымя». Наступнае дзесяцігоддзе стала, бадай, самым плённым, але і самым трагічным у жыцці пісьменніка. У гэты час былі напісаны нарысы «Падарожжа на новую зямлю», «Лісты ад знаёмага», «Вясна 1930 года», «Фрагменты», у якіх пісьменнік бескампрамісна выступіў супраць гвалтоўнага аб'яднання сялянскіх надзелаў у калектыўную гаспадарку, заклікаў да культурных метадаў землекарыстання, да захавання права вяскоўцаў на самастойны выбар. Прыкладам паспяховага авалодання пісьменнікам буйной эпічнай формай сталі аповесць «Голы звер» (1926), раманы «Сцежкі-дарожкі» (1928) і «Вязьмо» (1932). У іх узнімаліся складаныя праблемы маральна-этычнага плана, з пазіцый гуманізму асэнсоўваліся падзеі рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, класавай барацьбы ўвогуле. Пісьменнік-гуманіст не мог змірыцца з той жорсткасцю, бязлітаснасцю, неапраўданымі ахвярамі, якімі суправаджалася станаўленне савецкай улады, а таксама правядзенне суцэльнай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак.

М. Зарэцкі прымаў актыўны ўдзел у тэатральнай дыскусіі 1928 года, якая атрымала шырокі рэзананс у друку. Разам з Т. Глыбоцкім і З. Жылуновічам ён горача выступаў супраць нацыянальнага нігілізму, заклікаў развіваць нацыянальную культуру як форму выяўлення духоўнай сутнасці народа, уключаць у рэпертуар беларускіх тэатраў творы, звязаныя з нацыянальнай традыцыяй, з народнымі формамі жыцця. У хуткім часе пісьменнік быў арыштаваны,

абвінавачаны ў кіраўніцтве контррэвалюцыйнай арганізацыяй, у антысавецкай, нацыяналістычнай дзейнасці, асуджаны да вышэйшай меры пакарання.

**Тэматычная разнастайнасць, канфлікты, характары ў прозе М. Зарэцкага.** Для творчай манеры пісьменніка характэрны мастацкі аналітызм, філасафічнасць, глыбокае пранікненне ва ўнутраны свет чалавека, маральна-гуманістычная пазіцыя ў адлюстраванні вострых аспектаў тагачаснай рэчаіснасці, засяроджанасць на этычных, духоўных праблемах. Гэта садзейнічала агульнаму эстэтычнаму сталенню літаратуры ў няпросты для яе час.

Раннія апавяданні пісьменніка былі розныя ў сэнсе іх мастацкай вартасці, дасканаласці. Аддаючы даніну часу, пісьменнік вымушаны быў кіравацца агульнапрынятымі падыходамі пры мастацкім асвятленні грамадскіх праблем. Адсюль і відавочная ідэалагічная зададзенасць асобных твораў, і, паводле слоў даследчыка М. Мішчанчука, абстрактнае ўхваленне новага (апавяданні «Пела вясна», «Камсамолка»). Увогуле, тэма рэвалюцыйных перамен, новага ў жыцці разумелася аўтарам даволі неадназначна. Сацыяльнае не прызнавалася ім выключна вызначальным фактарам у фарміраванні духоўнага аблічча чалавека. Пісьменнік імкнуўся спалучаць грамадска-сацыяльныя праблемы часу з духоўнымі памкненнямі чалавека, з яго светаадчуваннем, з адносінамі да вечных каштоўнасцей. Праз усю творчасць пісьменніка праходзіць думка: сацыяльныя нававядзенні павінны спрыяць унутранаму ўзбагачэнню асобы, развіццю ў ёй высакародных пачуццяў, паважлівых адносін да сябе і да іншых, замацаванню ўпэўненасці ў будучыні. Чалавек тонкі і назіральны, М. Зарэцкі заўважаў небяспечныя для грамадства, разбуральныя па сваёй сутнасці працэсы і звязаныя з імі праявы нізкіх маральна-этычных якасцей асобы — унутранай агрэсіі, паразітызму, жорсткасці і нецярпімасці. У апавяданні «Цішка Бабыль» пісьменнік наважыўся паказаць небяспеку, якая падсцерагае грамадства ў выніку актывізацыі люмпенскага элемента. Увасабленнем апошняга ў творы становіцца Цішка Бабыль — самы бедны і гультаяваты чалавек у вёсцы, любімы занятак якога — пустаслоўе з прэтэнзіяй на бясспрэч-

У фінале п’есы драматург вяртае свайго героя ў свет рэальнага жыцця. Сын перастае іграць ролю цэзара і зноў становіцца звычайным падлеткам. Ён пачынае разумець сапраўдную сутнасць знешняй добрапрыстойнасці блізкіх і папракае іх у крывадушнасці: «Вы вялікія. І ваша хлусня — аграмадная». Такім чынам, маскі скінуты, дарослым няма чаго сказаць у адказ гэтаму маленькаму стварэнню, свайму дзіцяці. Праўда згуртавала Тату, Маму і Дзеда супраць Малыша. У шырокім сэнсе гэта трэба разумець як багатоўнасць кансерватыўных сіл грамадства да апошняга бараніць свае прынцыпы. Яны вымушаны ўжыць сілу і тым самым прызнаць сваю ідэйную паразу, маральную нежыццяздольнасць. Для самога вундэркінда канфлікт з роднымі, а значыць, і канфлікт з грамадствам абярнуўся трагедыяй. Вуснамі вундэркінда Макаёнак вымушаны канстатаваць сумную ісціну: «Пакуль ёсць праўда і крыўда, ёсць багатыя і бедныя, ёсць сытыя і галодныя... ёсць жандары і паэты, ёсць асуджаныя і ка́ты, да таго часу будуць зайздрасць, падман, грабёж, нянавісць, барацьба, каварства, кулакі, локці, зубы...» Аўтарскі песімізм навеяны тагачаснымі рэаліямі, але заключныя акорды п’есы даюць спадзяванне на лепшую будучыню чалавецтва. У фінале твора Дачка, якая, як і Малыш, асуджае маральныя асновы тагачаснага грамадства, не згодна паўтарыць лёс свайго брата: «Я на касцёр! На эшафот! На крыж пайду, каб не стаць такой, як ён!»

Галоўным аб’ектам сатыры ў «Зацюканым апостале» невыпадкова становіцца абагульнены вобраз мешчаніна-прыстасавальніка, які выяўляецца ў асобах Таты, Мамы і Дзеда.

Тата ўяўляе сабой даволі распаўсюджаны тып «накормленага» чыноўніка-прыстасаванца. Ён імкнецца падтрымліваць імідж паспяховага чыноўніка і добрапрыстойнага гаспадара сям’і. І, трэба сказаць, да пэўнага часу гэта яму ўдаецца. Навідавоку ў Таты такія прываблівыя якасці, як эрудыцыя і прысутнасць пачуцця гумару. У маладосці ён шмат працаваў над сабой, каб дабіцца нечага ў жыцці; уражвае дамашняя бібліятэка Таты, якую складаюць вартасныя, з густам падабраныя кнігі. Але, аналізуючы сямей-

ныя ўзаемаадносіны, можна зрабіць выснову, што Тата не адчувае сябе гаспадаром у доме: «Звычайны, хатні, такіх многа. Зусім ручны: хто паманіць, да таго ідзе». Тата, як і большасць грамадзян сваёй краіны, змірыўся з існуючым ладам жыцця, прыстасаваўся да яго звярыных законаў. Ён навучыўся хітраваць, захоўваючы пры гэтым маску добрапрыстойнасці. Калі Сын папракае бацьку ў хлусні, той з гневам адказвае: «Хлусня мяне корміць, усіх вас корміць! А стаў бы я гаварыць праўду? Мяне вышпурнуць вон!» Тата прыняў законы грамадства, у якім жыве, і лічыць іх непахіснымі.

Нягледзячы на крывадушнасць, эгаізм і распусту Таты, што робіць гэты вобраз сатырычным, толькі асмяяннем аўтарскі погляд на яго не вычэрпваецца. Тата — яшчэ і драматычны вобраз, ён ахвяра сацыяльных абставін жыцця. Хутчэй за ўсё калісьці Тата быў праўдалюбам, але грамадска-палітычная атмасфера, якая пануе ў краіне, зламала яго, зрабіла такім, як усе. Тата здольны адрозніць хлусню ад праўды, але не можа і не хоча супрацiўляцца лжы і фальшу, пакорліва прыстасаваўшыся да існуючай у грамадстве маралі.

Яшчэ болей непрымірымую пазіцыю займае камедыёграф у адносінах да жыццёвай філасофіі Мамы. Мама сваімі паводзінамі стварае ў доме атмасферу пастаяннага напружання, прадчування чарговага сямейнага канфлікту. Члены сям'і адчуваюць няшчырасць маці, маралізатарскія прамовы якой зусім не стасуюцца з яе асабістымі паводзінамі. Зрэшты, А. Макаёнак у рэмарцы трапна вызначыў сутнасць характару Мамы: «Яна хоча, каб усе жылі паводле правілаў хрысціянскай маралі, а сабе дазваляе іншы раз і так... як-небудзь». Сапраўды, да ўсіх сямейнікаў у Мамы даволі высокія патрабаванні і нават сур'ёзныя прэтэнзіі. Сына яна называе «хуліганам», «паганенькім прахіндзейчыкам», мужа — «цынікам» і «пашляком».

У Мамы не знаходзіцца часу для шчырых размоў з дзецьмі. Калі ў дапытлівага вундэркінда ўзнікаюць дарослыя пытанні, якія ставяць Маму ў тупік, яна злуецца: «Гэта ўжо не твая справа. Не сунь нос, куды не трэба».

Тыповым прадстаўніком старой фармацыі, зацятым кансерватарам выступае ў камедыі Дзед. Як і належыць сталаму чалавеку, Дзед мае пэўныя жыццёвыя перакананні. Пад простанароднай маскай добразычлівасці хаваецца драпежная натура. Дзед жыве ў маляўнічых мясцінах за горадам, займаецца фермерствам, а калісьці ён быў вялікім «рызыканцікам». У маладосці Дзед гандляваў зброяй у Еўропе і Афрыцы. Дзед не шкадуе аб сваім мінулым, а, наадварот, ганарыцца, што можа пасля смерці яшчэ і ўнуку «добры кавалак завяшчаць», няхай і зароблены злачынным бізнесам. Законы капіталістычнага грамадства для Дзеда непахісныя, і праблемы маладога пакалення, якое пратэстуе супраць рэчаіснасці, яму незразумелыя. Менавіта Дзед вырашыў першым ужыць «паліцэйскія меры» супраць унука, які абвінаваціў грамадства ў «вялікай хлусні».

У трагікамедыі «Зацюканы апостал» А. Макаёнак узнімае праблемы агульначалавечага характару. Нягледзячы на значную ўмоўнасць сюжэта твора, камедыя вызначаецца глыбокім рэалізмам: у ёй арганічна спалучаюцца палітычныя, філасофскія і маральныя праблемы сучаснасці. Камедыёграфа, як і многіх іншых пісьменнікаў-сучаснікаў, хвалявала страта «цывілізаванымі» дзяржавамі маральных ідэалаў, створаных чалавецтвам на працягу стагоддзяў, і пакланенне каштоўнасцям уяўным: грошам, фізічнай сіле, уладзе. Як сапраўдны гуманіст эпохі, А. Макаёнак верыць у здольнасць чалавечага розуму і сілу чалавечага духу адстаяць сапраўдныя каштоўнасці, тое лепшае, што назапашана на Зямлі цывілізаваным грамадствам.

## «Пагарэльцы»

**Творчая гісторыя трагікамедыі. Адметнасць кампазіцыі твора.** П’еса «Пагарэльцы» з’явілася ў друку і была пастаўлена на сцэне ў 1980 годзе. Цікава, што напісаны твор быў у канцы 1960-х гадоў і ў першапачатковай рэдакцыі меў назву «З кірмашу». Чым жа была выклікана тая метамарфоза, што адзін з лепшых твораў драматурга не быў вядомы шырокай аўдыторыі?

Камедыя «Пагарэльцы» лічыцца самай вострай сатырай драматурга на савецкую рэчаіснасць канкрэтнага гістарычнага перыяду. У значнай ступені гратэскавы смех п’есы быў скіраваны супраць атмасферы палітычнага жыцця краіны 1930—1950-х гадоў, што выявілася ў гнеўным асуджэнні не толькі таталітарнага рэжыму, але і антыграмадскай дзейнасці некаторых чыноўнікаў-прыстасаванцаў. А. Макаёнак добра разумеў, што ўсё гэта мае месца і ў сучасным яму жыцці, гэта значыць добра ўсведамляў актуальнасць і востраправлемнасць камедыі. Апёкшыся на папярэдніх п’есах, аўтар вырашыў не рызыкаваць лёсам твора, аддаўшы яго на самасуд псеўдакрытыкам, а занесці яго адразу першай асобе рэспублікі П. М. Машэраву. Пятру Міронавічу твор спадабаўся, але і ён аказаўся не ўсемагутным, параіўшы аўтару пачакаць гадкоў 5—6. Кіраўнік дзяржавы памыліўся: п’еса праляжала ў шуфлядзе ажно 13 гадоў. За гэты час А. Макаёнак шмат чаго змяніў у творы, працуючы над ім больш, чым над іншымі сваімі п’есамі.

Камедыя мае незвычайную будову: яна складаецца толькі з пралога і эпілога. Такая кампазіцыя твора адпавядае аўтарскай задуме, якой ён дзеліцца з чытачом у рэмарцы перад пралогам. Камедыёграф хоча на прыкладзе «адной прыватнай трагікамічнай гісторыі» давесці да свядомасці чытача думку, што за ўсё ў жыцці даводзіцца плаціць. Маральны вопыт народа, зафіксаваны ў прыказках «Што пасееш, тое і пажнеш», «Як аукнецца, так і адгукнецца», як мяркуе пісьменнік, варта было б улічваць і чыноўнікам. У першую чаргу, гэта тычыцца тых, хто «папіхаў слабога, дагаджаў дужаму, падлізваўся, хлусіў, крывадушнічаў, выгадваў, пагарджаючы інтарэсамі другіх дзеля ўласнай сытасці».

У пралогу аўтар апавядае пра даваеннае жыццё аднаго горада, калі «краіна, пераадольваючы шматлікія цяжкасці і нягоды, паднімалася на ногі пасля разрухі». Падзеі адбываюцца ў горадзе пасля землятрусу — у такой іншасказальнай форме А. Макаёнак перадае грамадска-палітычную напружанасць, драматызм часу, гнеўна асуджае маральна-этычныя прынцыпы нядаўна прызначанага на пасаду старшыні гарвыканкама Ухватава і ягоных будучых памагатых.

Твор завяршаецца эпілогам. У змесце камедыі «выкрэсленымі» аказаліся дваццаць гадоў з жыцця персанажаў. Але твор ад гэтага не губляе сваёй цэласнасці, ідэйнай завершанасці. Па-першае, пралог і эпілог у кантэксце аўтарскай задумы трэба разумець не толькі як літаратуразнаўчыя тэрміны, а і як пачатак і фінал чыноўніцкай кар’еры ўхватавых. Па-другое, пра многае з жыцця герояў п’есы мы даведваемся з аўтарскіх рэмарак. Эпілог падводзіць вынік антынароднай па сваёй сутнасці дзейнасці чыноўнікаў: Ухватаў, апынуўшыся на пенсіі, не знаходзіць удзячнай падтрымкі ў сваіх былых падначаленых, і яго хворае сэрца не вытрымлівае іх подласці; сучасныя чыноўнікі, стаўленікі Ухватава, вымушаны пакінуць свае крэслы па прычыне ліквідацыі канторы, дзе яны знайшлі цёплы прытулак, як «апендыкс гаржылупраўлення».

Сімвалічны характар у творы набывае запісная кніжка старшыні гарвыканкама Бурлакова, загінуўшага ў час землятрусу. Яе змест увасабляе ў камедыі маральныя ідэалы сумленных чыноўнікаў, якія сваім жыццём, прафесійным стаўленнем да займаемых пасад, гуманістычнымі адносінамі да грамадзян сцвярджаюць адказнасць асобы перад дзяржавай, перад суайчыннікамі. У вобразе Аляксея Аляксеевіча драматург імкнецца паказаць здаровыя сілы народа, што здольныя не толькі годна супрацьстаяць ухватаўшчыне, але і адчувальна пахіснуць бюракратычныя асновы значнай часткі наменклатуры, узгадаванай аўтарытарным рэжымам. Бурлакоў зусім не бачны ў сцэнічных падзеях камедыі: ён і яго жонка, Наталля Мікалаеўна, з’яўляюцца там эпізадычна. У цэнтры аўтарскай увагі знаходзіцца сатырычнае адлюстраванне адмоўнага.

**Майстэрства драматурга ў стварэнні вобразаў-тыпаў.** У адпаведнасці з жанрам п’есы камедыёграф стварае яркія сатырычныя тыпы, характары чыноўніцкай сістэмы таталітарнай дзяржавы.

Найбольш дэталёва паказаны ў творы вобраз Ухватава. Знаёмства з гэтым персанажам адбываецца падчас яго гутаркі з жонкай Раяй, якая нарэшце дачакалася свайго

мужа пасля трывожнай ночы. У дыялогу Ухватавых добра перадаецца атмасфера падазронасці і страху, якая панавала ў горадзе пасля землятрусу. Ухватаў паведамляе жонцы, што ў выніку трагедыі загінула шмат людзей, бясследна знік іх сусед, старшыня гарвыканкама Бурлакоў. На начным пасяджэнні часова выконваючым абавязкі вольнай пасады абралі Ухватава. Нельга сказаць, каб Ухватаў быў вельмі задаволены тым, што яго «трасанула і падкінула» ў крэсла старшыні выканкама. Гаркамаўскі інструктар бачыў, як у часы катаклізму ляцяць галовы высокапастаўленых чыноўнікаў, а таму хацеў быў адмовіцца ад адказнай і небяспечнай па тым часе пасады. Ухватаў дрыжэў за сваю шкуру, але Гэты прымусіў яго падпарадкавацца партыйнай дысцыпліне: «Яму, панімаеш, аказваюць давер'е, а ён упіраецца, як ішак, панімаеш. Авансам амністыю просіш?» Сцэна насычана вобразамі-сімваламі, якія лёгка чыталіся пасля выкрыцця культу асобы ў савецкай краіне. Пад землятрусам, катаклізмамі мы пазнаём масавыя рэпрэсіі. З гісторыі таксама вядома, што менавіта на начных пасяджэннях прымаліся самыя жорсткія рашэнні тагачаснай сістэмы і адбываліся арышты бязвінных людзей.

Факт абрання Ухватава на пасаду старшыні выканкама можна лічыць завязкай дзеяння. З гэтага часу пачынаецца падбор «надзейных кадраў» наваяўленым кіраўніком. Аўтар падкрэслівае тую немалаважную дэталь, што Ухватаў займаецца пошукам «верных людзей» выключна для таго, каб утрымацца пры ўладзе. У падборы кадраў Фёдар Паўлавіч арыентуецца на тых людзей, якія не будуць перашкаджаць яму кіраваць. Ухватаў баіцца людзей адукаваных, разважлівых, бо ён сам да такіх не адносіцца, нядаўна «на цагельні гліну мясіў». Таму ў памагатыя сабе выбірае Кудасава, вядомага ў горадзе за свой «надзвычайны нюх», Бусько, які марыць аб «культурнай пасадзе», Клёпкіна, што выдае сябе за гумарыста-прасцяка.

З аўтарскай рэмаркі перад эпілогам мы даведваемся, як праявіў сябе на адказнай пасадзе Ухватаў: «Фёдар Паўлавіч — чалавек быў трудны, прагнуў пашаны і таму заўсёды

чакаў асобай да сябе павагі, уладалюбівы, круты і, як гаворыцца, любіў праехаць вярхом са шпорамі». Ухватаўшчына густа прарасла ў чыноўніцкім апараце горада. Фёдар Паўлавіч, у эпілогу ўжо пенсіянер, па волі лёсу сам сутыкнуўся з бюракратычным кручкатворствам сваіх былых падначаленых. Ухватаў стаў ахвярай уласнага «вынаходніцтва». Аўтар прыводзіць свайго персанажа да лагічнага канца — Ухватаў памірае, абураны хамствам, няўдзячнасцю чыноўнікаў, сваіх былых кадраў. У вобразе Ухватава камедыёграф высмеяў тыповыя рысы шматлікіх прадстаўнікоў савецкай наменклатуры: прафесійную непрыгоднасць кіруючых асоб і злоўжыванне ў карыслівых мэтах службовымі абавязкамі. У карыкатурна-гратэскавых формах падаюцца аўтарам і іншыя сатырычныя вобразы п'есы. А. Макаёнак у абмалёўцы markerознага кшталту прыстасавальнікаў, кар'ерыстаў, цынікаў і дэмагогаў дасягае высокага ўзроўню іх індывідуалізацыі, камедыяграфічнага майстэрства.

Першым да Ухватава, які толькі-толькі атрымаў высокую пасаду, завітаў Кудасаў — вось ужо сапраўды тонкі нюх! Кудасаў — прыроджаны апаратчык. Яго ліслівасць і падхалімаж не ведаюць межаў: падначалены гатовы правезці новага мэра горада на ўласнай спіне, дэманструючы таму сваю адданасць. Кудасаў нездарма прэтэндуе на ролю «мазгавога цэнтра» ў будучым чыноўніцкім апараце горада. Ён прасвятляе Ухватава ў прыярытэтных кірунках работы: «Горгандаль прадуктамі, горгандаль прамтаварамі і горжылупраўленне». У вобразе Кудасава аўтар увасобіў чыноўніка-падхаліма, які кіруецца ў жыцці выключна спажывецкімі інтарэсамі.

Каларытная ў сатырычным плане фігура твора — Антон Сцяпанавіч Бусько. У гэтым вобразе драматург высмеяў неадпаведнасць некаторых савецкіх чыноўнікаў займаемым пасадам. Калісьці Бусько працаваў разам з Ухватавым на цагельні, потым яго «выдзвінулі ў заготжывёлу», адтуль, па прычыне таго, што «бацька ўсю грамадзянскую вайну прайшоў». Антон Сцяпанавіч — чалавек абмежаваны, але з вялікімі амбіцыямі. Дзейнічае звычайна проста і на-

хабна. Прывёзшы з вёскі хабар у выглядзе двух кумпякоў, Бусько без усялякіх прадмоў просіць «друга» выцягнуць яго з «балота», падшукаць работу ў кабінеце, «шо б було кому команду даць». Бусько невыпадкова ў эпілогу твора ўзначальвае «кантору».

У камедыйным плане паказаны ў творы вобраз Сілана Данілавіча Клёпкіна. Прызначэнне такога тыпу чыноўнікаў — смяшыць, забаўляць начальнікаў. З Клёпкіным звязаны розныя анекдатычныя гісторыі. То Сілан успамінае сваё рэвалюцыйнае мінулае, калі ён ахоўваў дрывяны склад у Петраградзе, то прыгадвае выпадак, як жонка не дазволіла яму стаць бельгійскім каралём. Але між іншым пацешнік не забывае папрасіць Ухватава, каб той «перацягнуў» яго ў горад. Схільнага да «ідэйнай работы» Клёпкіна ў пралогу мы бачым пазней чыноўнікам з «вялікім партфелем». Аўтарская рэмарка, у якой апісваецца інтэр’ер кабінета Сілана Данілавіча («на стале — фартыфікацыйныя збудаванні з кніг, папак, даведнікаў, інструкцый, палажэнняў, кодэксаў»), пераконвае нас у тым, што Клёпкін — даволі распаўсюджаны тып закончанага бюракрата-кручкатвора.

Як ужо адзначалася, ухватаўшчына ў творы панесла справядлівае пакаранне. Але наўрад ці А. Макаёнак сапраўды сур’ёзна лічыў, што з’ява, сатырычна адлюстраваная ў п’есе, толькі «прыватная трагікамічная гісторыя», што «здарылася даўным-даўно». Безумоўна, выкрывальны пафас камедыі не страціць сваёй актуальнасці да таго часу, пакуль у нашым жыцці будуць сустракацца чыноўнікі, падобныя ўхватавым, кудасавым, бусько і клёпкіным, для якіх улада патрэбна толькі для ўласнага дабрабыту.

### ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Вызначце жанр і праблематыку твора «Зацюканы апостал».
2. У чым своеасаблівасць канфлікту камедыі?
3. Хто такі Малыш: сатырычны вобраз камедыі, рупар аўтарскіх ідэй ці ахвяра грамадскай маралі?

4. У чым бачыцца тыповасць сатырычных вобразаў п'есы?
5. Абгрунтуйце тэзіс, што твор узнімае праблемы агульначалавечага характару.
6. Па якой прычыне п'еса А. Макаёнка «З кірмашу» не трапіла ў свой час у друк і на сцэну?
7. Раскажыце аб асаблівасцях кампазіцыі твора.
8. Што трэба разумець пад ухватаўшчынай як грамадскай з'явай і якія яе наступствы аўтар лічыў небяспечнымі?
9. Патлумачце сэнс слоў «землетрасенне», «катастрофа», «катаклізм» у «Пагарэльцах» у кантэксце аўтарскай задумы і ідэі твора?
10. Якая моўная характарыстыка дапамагае А. Макаёнку ствараць запамінальныя сатырычныя персанажы-тыпы?



## *ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ*

### Сатырычная камедыя. Трагікамедыя. Моўная характарыстыка персанажаў

У літаратуразнаўстве вылучаюць тры асноўныя жанры драматургіі: камедыю, драму і трагедыю. Але кожны з іх мае і свае разнавіднасці, мадыфікацыі. Так, напрыклад, у камедыі смех можа быць вясёла-гумарыстычным і з'едлівым. Калі ў п'есе дамінуе другая разнавіднасць смеху, то яе жанр вызначаецца як сатырычная камедыя. ***Сатырычная камедыя*** высмейвае негатыўныя з'явы сацыяльнага жыцця, заганы чалавечых характараў. У цэнтры сатырычнай камедыі павінна знаходзіцца адмоўнае, менавіта сатырычныя вобразы, як, напрыклад, Гарлахвацкі, у п'есе «Хто смяецца апошнім».

Часта драматычныя жанры ўзаемадзейнічаюць, узаемаўплываюць, узаемапранікаюць. Тады ўзнікаюць новыя жанравыя формы.

***Трагікамедыя*** ўключае ў сябе адначасова жанравыя адметнасці сатырычнай камедыі і трагедыі. Трагедыяй называецца драматычны твор, заснаваны на непрымiры-

мым канфлікце, на сутыкненні характараў і падзей, якія часцей за ўсё канчаюцца смерцю героя, як у трагікамедыях А. Макаёнка (смерць Ухватава ў «Пагарэльцах», ператварэнне Малыша ў ідыёта ў «Зацюканым апостале»). Смех трагікамедыі звычайна сацыяльна значны, ён накіраваны на выкрыццё негатыўных тэндэнцый у развіцці грамадства.

Значная роля ў драматычных творах для вырашэння аўтарскай ідэі належыць ***моўнай характарыстыцы персанажаў***. Асабліва яскрава выявіў гэты бок таленту камедыёграфа А. Макаёнак у п'есе «Пагарэльцы». Аўтар надзяляе персанажаў камедыі мовай, якая адпавядае іх сацыяльным характарам, узроўню адукацыі. Так, у мове Бусько пераважаюць дыялектныя словы, для яе характэрнае імкненне да панібрацтва, фамільярнасці, не саромеецца ён і брыдкаслоўя. Сваю жонку Горпіну Бусько называе бабай і апісвае яе знешнасць наступным чынам: «Штоб обгарнуць толькі кузаў, тры метры мадэпаламу трэба». Для мовы ж Сілана, закончанага бюракрата, наадварот, характэрныя кніжнасць, канцылярызм, кручкатворства. Сілан сцвярджае, што для яго «слова не мае юрыдычнай сілы, толькі подпіс». А. Макаёнак такім чынам па-майстэрску выкарыстоўвае моўную характарыстыку для стварэння сатырычных персанажаў-тыпаў.

## ПАМЯТКІ ДЛЯ ВЫКАНАННЯ НЕКАТОРЫХ ЗАДАННЯЎ, ПРАПАНАВАНЫХ У ДАПАМОЖНІКУ

### Як рыхтаваць адказ па літаратуры

1. Вызначце асноўныя думкі для адказу.
2. Складзіце план адказу (напрыклад, характарыстыку героя).
3. Падрыхтуйце тэзісы да пунктаў плана. Думкі афармляйце дакладна, коратка, літаратурна.
4. Для аргументацыі думак падбірайце кароткія цытаты з тэксту.

### Алгарытм аналізу эпізода тэксту

**I.** 1. Вызначэнне тэмы і месца эпізода ў ідэйнай задуме пісьменніка.
2. Вызначэнне межаў эпізода.
3. Выяўленне чытацкіх уражанняў (успрыманне, пачуцці, думкі).
4. Вызначэнне найбольш значных мастацкіх дэталяў (пейзаж, інтэр'ер, апісанне партрэта, мова і інш.).
5. Раскрыццё ў гэтым эпізодзе вобраза героя (учынкі, пачуцці, думкі, перажыванні і інш.).
6. Выяўленне аўтарскай пазіцыі.

**II.** 1. *Што* з'яўляецца галоўным у гэтым эпізодзе?
2. *Якім чынам* гэта перадае мастак слова?
3. *З якой мэтай*?
4. Якую ролю адыгрывае гэты эпізод у раскрыцці тэмы і ідэі?

### Даклад

**Даклад** — адзін з відаў вуснага маналагічнага маўлення. Яго мэтай з'яўляецца перадача слухачам пэўнай інфармацыі. У адрозненне ад паведамленняў пры падрыхтоўцы даклада

можа выкарыстоўвацца як адна, так і некалькі крыніц. У дакладзе неабходна выразна акрэсліць уласную пазіцыю.

Пры падрыхтоўцы даклада неабходна прытрымлівацца пэўнай паслядоўнасці ў працы:

- скласці план даклада;
- коратка запісаць змест кожнай думкі, г. зн. сфармуляваць тэзісы;
- да кожнага тэзіса падабраць доказы;
- зрабіць высновы, абагульненні.

## Як канспектаваць прачытанае

**Канспектаванне** — гэта працэс разумовай перапрацоўкі і пісьмовай фіксацыі прачытанага тэксту, у выніку якога з'яўляецца запіс у форме канспекта. Пры гэтым адбываецца спецыяльная перапрацоўка інфармацыі, яе «згортванне».

Каб заканспектаваць прачытанае неабходна:

- сфармуляваць тэму, асноўную думку тэксту;
- вызначыць сэнсавыя часткі тэксту і галоўную думку кожнай з іх;
- падабраць аргументы;
- вызначыць, якія часткі тэксту патрэбна запісаць даслоўна;
- прадумаць скарачэнні слоў, графічныя і ўмоўныя абазначэнні.

## Як падрыхтаваць тэзісы прачытанага артыкула

**Тэзісы** — асноўныя палажэнні, сцверджанні прачытанага. Каб падрыхтаваць тэзісы прачытанага тэксту неабходна:

- падзяліць тэкст на сэнсава закончаныя часткі;
- назваць галоўную думку кожнай часткі, гэта значыць скласці план;
- вылучыць у кожнай частцы тэматычны ці сэнсавы сказ;
- выключыць са зместу абзацаў падрабязную інфармацыю;
- скараціць пры неабходнасці змест тэматычных ці сэнсавых сказаў, перадаць яго сваімі словамі;
- дакладна сфармуляваць галоўную думку кожнага абзаца і запісаць яе.

## Рэцэнзія

**Рэцэнзія** — гэта ўсебаковы аналіз, аб'ектыўная ацэнка твора, якая ўтрымлівае сістэму доказаў, абапіраецца на прыклады, цытаты з твора, на літаратуразнаўчыя працы.

***Памятка для падрыхтоўкі рэцэнзіі на твор***

1. Бібліяграфічнае апісанне (калі ён напісаны, дзе, калі выдадзены).
2. Кароткая характарыстыка творчасці пісьменніка (у сувязі з пэўным творам).
3. Творчая задума аўтара кнігі.
4. Сэнс назвы.
5. Сціслая інфармацыя пра змест.
6. Крытычная ацэнка твора: адметнасць кампазіцыі; майстэрства аўтара ў адлюстраванні герояў; індывідуальны стыль пісьменніка.
7. Асноўная думка рэцэнзіі.
8. Актуальнасць тэматыкі і праблематыкі твора.

## Водгук

**Водгук** — гэта суб'ектыўнае паведамленне пра твор з элементам аналізу, але без усебаковай характарыстыкі зместу і мастацкай структуры. Водгук можа быць напісаны ў форме разважання. Тады ён звычайна ўтрымлівае тэзіс, меркаванне чытача пра кнігу, доказ правільнасці высновы.

Мэты водгуку: падзяліцца ўражаннямі ад прачытанага, пераканаць у сваіх ацэнках, зацікавіць творам.

***Памятка для падрыхтоўкі водгуку на твор***

1. Уступ. (Пры якіх умовах вы пазнаёміліся з творам.)
2. Тэма і асноўная думка.
3. Дзе і калі адбываюцца падзеі, апісаныя ў творы?
4. Якія эпізоды твора зрабілі на вас найбольшае ўражанне? Чаму?
5. Хто з герояў асабліва спадабаўся? Чаму?
6. Мова твора. Што асабліва запомнілася, здалося незвычайным?
7. Над чым вас прымусіла задумацца кніга, чым узбагаціла?

# СЛОЎНІК
# ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫХ ТЭРМІНАЎ

**Алего́рыя** (ад грэч. *allegoria* — іншасказанне) — адлюстраванне абстрактных паняццяў ці з'яў праз канкрэтныя вобразы; персаніфікацыя чалавечых якасцей з дапамогай аналогіі: *баран — увасабленне абмежаванасці, ліса — хітрасці, свіння — неахайнасці, конь — працавітасці.*

**Алітэра́цыя** (ад лац. *ad* — к, пры; *litera* — літара) — від гукапісу, паўтарэнне зычных гукаў дзеля дасягнення мастацкай вобразнасці: *У **б**у**б**ны **д**аха**ў** ве**ц**ер **б**'е* (М. Багдановіч).

**Анало́гія** (ад грэч. *analogia* — падабенства) — прыём мастацкага пісьма, заснаваны на вызначэнні рыс падабенства ў з'явах, прадметах, вобразах.

**Ана́фара** — паўторы слоў ці словазлучэнняў у пачатку вершаў, якія істотна ўплываюць на кампазіцыю твора, яго змест.

**Антытэ́за** (ад грэч. *antithesis* — супрацьпастаўленне) — мастацкі прыём, які выкарыстоўваецца дзеля перадачы кантрастнасці паказанага. Антытэзы бываюць сюжэтныя, кампазіцыйныя, тэматычныя і г. д., грунтуюцца на антаніміі, што падчас выяўляецца ў назве твора: «Людзі і д'яблы» (К. Крапіва), «Агонь і снег» (І. Шамякін), «Свае і чужынцы» (І. Чыгрынаў).

**Асана́нс** (ад франц. *assonance* — сугучнасць) — паўтарэнне аднатыпных галосных гукаў у мэтах мастацкай выразнасці (часцей ужываецца ў паэзіі): *Д**а**р**а**г**а**я зямля, р**а**дзім**а**! / Слов**а** вым**а**віць нем**а**гчым**а*** (А. Куляшоў).

**Асацыя́цыя** (ад познелац. *associatio* — злучэнне) — вобраз, заснаваны на выяўленні сувязей паміж канкрэтным і абстрактным, паміж рознымі з'явамі па ледзь бачных прыметах падабенства: *парог, вычасаны з успамінаў* (М. Танк), *срэбная нітка песні жаўрука* (Р. Барадулін).

**А́ўтар** (ад лац. *autor* — суб'ект дзеяння, заснавальнік) — творца, які можа выяўляць сябе ў творы адкрыта і прыхавана, ускосна, у залежнасці ад стылю, жанравай спецыфікі мастацтва і іншых фактараў.

**Ба́йка** — кароткае дыдактычнае апавяданне ў вершах (радзей — у прозе), з дзвюма кампазіцыйнымі часткамі: апісальнай і адто-

чанай афарыстычнай мараллю, сатырычнае або павучальнае па змесце, алегарычнае.

**Бала́да** (ад франц. *ballade* — скокавая песня) — жанр ліра-эпічнай, эпічнай (радзей — лірычнай) паэзіі, з драматычным сюжэтам, трагічным фіналам. У эпоху Рамантызму ў баладзе часцей, чым цяпер, выкарыстоўваліся элементы патаемнасці, фантастыкі, міфалагічныя сюжэты. Балады бываюць фальклорныя (блізкія да песні) і літаратурныя.

**Бе́лы верш** — нерыфмаваны, рытмічна арганізаваны сілаба-танічны верш. У паэзіі выкарыстоўваецца рэдка.

**Верлі́бр,** або **свабо́дны верш** (ад франц. *vers libre* — вольны верш) — верш, у аснову якога пакладзена чаргаванне якіх-небудзь рытмастваральных кампанентаў (аднатыпных сінтаксічных канструкцый, аднолькавых слоў ці крыху зменёных радкоў, гукаспалучэнняў). Для верлібра характэрныя багацце і гнуткасць паэтычнага сінтаксісу. Пачынальнікам жанру верлібра (свабоднага верша) у беларускай літаратуры быў М. Багдановіч. У паэзіі XX стагоддзя верлібры сустракаліся ў В. Ластоўскага, М. Танка, П. Панчанкі, А. Вярцінскага, Я. Сіпакова, А. Лойкі і інш.

**Во́браз** — створаная ўяўленнем аўтара карціна рэчаіснасці, свету, жыцця ў цэлым (макравобразы), яго асобных адметных рыс (вобразы-дэталі, вобразы-тропы — міні-вобразы). Вобраз звязаны з рэчаіснасцю ў значнай (рэалістычны) ці ў малой (фантазійны) ступені.

**Вяно́к сане́таў** — твор з 15 санетаў; апошні санет — магістрал — складаецца з першых радкоў папярэдніх; кожны санет пачынаецца і заканчваецца адпаведнымі радкамі магістрала. Вянкі санетаў пісалі і пішуць А. Сербантовіч, Я. Сіпакоў і іншыя паэты.

**Гераі́чнае і трагі́чнае ў літарату́ры** — эстэтычныя катэгорыі, звязаныя з паняццем пафасу (ад грэч. *pathos* — страсць, пачуццё) і адпаведным яму зместам. Вылучаюцца наступныя разнавіднасці пафасу: гераічны, трагедыйны, сатырычны, сентыментальны, гумарыстычны і інш. Але часцей за ўсё ў адным творы, а тым больш у творчасці пісьменніка ў цэлым, аб'ядноўваюцца разнавіднасці пафасу: трагедыйны і сатырычны (трагікамедыі А. Макаёнка), сентыментальны і гумарыстычны («Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча).

**Гіпе́рбала** (ад грэч. *hyperbole* — перавага, лішак) — прыём мастацкага перавелічэння з'явы, часты ў казках, былінах, легендах, баладах. Яркія ўзоры яе далі А. Куляшоў у «Баладзе пра вока», П. Панчанка ў баладзе «Герой».

**Дра́ма** (ад грэч. *drama* — дзеянне) — 1) род літаратуры, заснаваны на дзеянні, у дыялогавай форме; 2) жанр драматургіі, прамежкавы паміж трагедыяй і камедыяй, часцей з сямейна-бытавым ці на гістарычную тэму сюжэтам.

**Ідэ́я маста́цкага тво́ра** (ад грэч. *idea* — паняцце, уяўленне) — галоўная думка твора, якая вынікае з яго зместу, абумоўлена аўтарскай пазіцыяй і чытацкім разуменнем.

**Ідэ́йны змест** — комплекс ідэй твора. У раманах «Сэрца на далоні», «Трывожнае шчасце» І. Шамякіна: заклік да дабрыні, выкрыццё двурушніцтва і здрадніцтва, сцвярджэнне пераемнасці спраў пакаленняў і г. д.

**Інве́рсія** (ад лац. *inversio* — перастаноўка) — парушэнне граматычнай паслядоўнасці мовы з мэтай дасягнення мастацкага эфекту. Часцей назіраецца ў лірыцы: *Жыццё закон нязломны мае: // Ніколі праўда не ўмірае* (М. Багдановіч); *Але і салодкі ад дружбы быў // Мой хлеб надзённы* (М. Танк).

**Інтры́га** (ад лац. *intrico* — заблытваць) — складаны ланцуг падзей у творы як вынік адпаведнага заблытанага зместу. Часта выяўляецца ў навеле, дэтэктыўным рамане («Чорны замак Альшанскі» У. Караткевіча).

**Каме́дыя** (ад грэч. *komos* — вясёлы натоўп; *ode* — песня, гімн) — жанр драмы. «Герой» камедыі — смех, заснаваны на гумары, іроніі, сарказме, сатыры, іх прыёмах пісьма. Можа быць адпаведна гумарыстычнай, іранічнай, сатырычнай, лірычнай. Бываюць камедыі сітуацый (творы А. Макаёнка), характараў (творы К. Крапівы, А. Макаёнка).

**Кампазі́цыя** (ад лац. *compositio* — складанне, упарадкаванне) — пабудова твора, яго сюжэта, сродак раскрыцця характараў, сутнасці з'яў. Бывае складанай (раман) і простай (апавяданне, нарыс).

**Канфлі́кт у драматы́чным тво́ры.** Канфлікт — гэта супярэчнасць, ён з'яўляецца асновай любога твора, нават лірычнага, апісальна-сузіральнага, у якім выяўляецца лагодны і памяркоўны настрой. Бываюць канфлікты вострасацыяльныя, маральна-этычныя, бытавыя, прымірымыя ці непрымірымыя, адзінкавыя і тыповыя. Ёсць і так званыя вечныя канфлікты, што становяцца асновай філасофскіх твораў: жыццё і смерць, дабро і зло, святло і цемра, шчасце і бяда, пачуццё і абавязак.

У драматычных творах звычайна некалькі канфліктаў: цэнтральны, галоўны, і пабочныя, якія развіваюцца паралельна з асноўным. Кожны з іх мае свой пачатак, кульмінацыйны пункт развіцця, спад, таксама як і сюжэт. Вакол канфлікту грунтуецца дзеянне, групуюцца героі.

**Кульміна́цыя** (ад лац. *culmen* — вяршыня) — найвышэйшы момант развіцця дзеяння ў творах. Пасля кульмінацыі дзеянне ідзе на спад. У «Сэрцы на далоні» І. Шамякіна — гэта аперацыя на сэрцы Зосі Савіч.

**Лі́рыка** (ад грэч. *lyrikos* — музычны, напеўны) — род літаратуры, самы суб'ектыўны (Гегель, Бялінскі), пра стан чалавечай душы, перададзены праз вобраз-перажыванне. Лірыцы ўласцівая павышаная эмацыянальнасць, сцісласць выказвання, абагуленасць пачуццяў; у ёй узрастае роля слова, тропа, сродкаў паэтычнага сінтаксісу, рытмікі і інтанацыі. Перажыванні разгортваюцца часцей у форме цяперашняга часу. Аўтар становіцца лірычным героем. Можна вызначыць лірыку апісальную (бліжэйшую да эпасу), выяўленчую, дыдактычную (павучальную), філасофскую. Па тэматыцы лірыка бывае грамадзянскай, пейзажнай, любоўнай (інтымнай), сатырычнай і г. д.

**Лíры́чны геро́й** — гэта ў чыста лірычных творах сам аўтар. Лірычны герой — не копія самога аўтара, а яго ідэал ці нават травестацыя, пераліцоўка мастака (што бывае значна радзей). Ён роўны аўтару па духу, па спосабе мыслення. У мэтах канспірацыі аўтар можа прынізіць свае магчымасці і здольнасці, выступіць у некалькі іншай ролі. Але ў цэлым лірычны герой падобны на свайго аўтара.

**Літарату́рны жанр** (ад франц. *genre* — род) — тып літаратурных твораў, адметны пафасам, зместам, формай. Жанры лірыкі — элегія, ода, пасланне, верш-роздум і г. д., жанры эпасу — раман, аповесць, апавяданне, нарыс, навела, паэма, эпапея і г. д., жанры драмы — трагедыя, камедыя, драма, трагікамедыя, фарс, вадэвіль і г. д.

**Мадэрні́зм** — гэта агульная назва напрамкаў, якія парываюць з традыцыямі XIX стагоддзя, з рэалізмам і выяўляюць суб'ектывісцкае, індывідуалістычнае светабачанне. У адрозненне ад рэалістаў, якія прызнаюць першаснасць зместу і тэматыкі, мадэрністы сцвярджаюць прыярытэт формы і сродкаў выяўлення.

**Маста́цкая дэта́ль** — міні-вобраз, якім можа быць лаканічнае апісанне прыроды, вылучэнне нейкай рысы знешнасці героя, яго манеры гаварыць, хадзіць, жэстыкуляваць, троп — эпітэт, метафара, параўнанне, нават адно слова. Але ўсё названае становіцца вобразам-дэталлю толькі тады, калі набывае вялікае сэнсавае значэнне, пралівае святло на ацэнку падзей у творы, на яго ідэйны пафас, на характар таго ці іншага героя. Мастацкая дэталь заўсёды шматгранная і шматзначная.

**Мета́фара** (ад грэч. *metaphora* — прыхаванне, перанясенне) — ужыванне слова ці выразу ў пераносным значэнні праз супастаўленне пэўнай з'явы ці прадмета з іншай з'явай ці прадметам на аснове агульных для іх адзнак і ўласцівасцей. Аднасастаўнае параўнанне, у адрозненне ад класічнага параўнання, заснаванае часцей за ўсё на адухаўленні з'яў: *На струнах хвой спявае вецер; Пакліч — былое адгукнецца* (А. Куляшоў).

**Міф** (ад грэч. *mythos* — слова, паданне) — казанне, у якім выяўляюцца погляды нашых далёкіх продкаў на свет, жыццё, з'явы прыроды, пра багоў, асілкаў і г. д. Многія міфы, занатаваныя ў Бібліі, леглі ў аснову літаратурных твораў (напрыклад, у творах У. Караткевіча).

**О́да** (ад грэч. *ode* — песня) — гэта ўрачысты паэтычны верш, як правіла, у гонар нейкай урачыстай падзеі ці выдатнай асобы. Ода ўзнікла ў Старажытнай Грэцыі, так называлі кожную лірычную песню, сумную ці вясёлую. У рускай літаратуры оды пісалі В. Традзьякоўскі, М. Ламаносаў, Г. Дзяржавін. У XX стагоддзі, паяднаўшы патэтыку і лірыку, ода ўвайшла ў беларускую «ўслаўленчую» паэзію (П. Панчанка, П. Макаль, М. Стральцоў). У беларускай паэзіі існуюць жанравыя формы сатырычнай оды (Н. Гілевіч), оды-рэквіема (М. Танк, А. Вярцінскі).

**Персана́ж** (ад лац. *persona* — твар, маска) — дзеючая асоба мастацкага твора.

**Постмадэрні́зм** — гэтае паняцце выкарыстоўваецца ў розных значэннях. З аднаго боку, ім пазначаецца асобны перыяд у развіцці сусветнай літаратуры XX стагоддзя. З другога боку, ён разглядаецца і як заканамерны этап развіцця літаратуры, якая процістаіць рэалізму.

**Прататы́п** (ад грэч. *protos* — першы; *typos* — арыгінал) — рэальная гістарычная асоба, якая набыла рысы тыповасці і стала персанажам твора.

**Пры́павесць, пры́тча** — дыдактычнае апавяданне, заснаванае на алегорыі, іншасказанні з часоў старажытнасці. Прытчы ў канцы XX стагоддзя пісаў В. Быкаў, пішуць Я. Сіпакоў, Л. Галубовіч, іншыя пісьменнікі.

**Рама́н** (ад франц. *roman* — апавяданне) — жанр эпічнай літаратуры з ускладненым зместам, разгалінаваным сюжэтам. Раманы бываюць сацыяльнымі, філасофскімі, сямейна-бытавымі, прыгодніцкімі, дэтэктыўнымі, сатырычнымі.

**Рэалі́зм** (ад познелац. *realis* — сапраўдны) — мастацкі метад, які сцвердзіўся ў беларускай літаратуры ў першай палове XIX стагоддзя і «замацаваўся» ў творчасці Ф. Багушэвіча. Асноўныя

прынцыпы: праўдзівасць, шырокі ахоп рэчаіснасці, глыбіня яе аналізу.

**Стыль** (ад грэч. *stylos* — стрыжань для пісьма) — выразнік індывідуальных асаблівасцей творчасці пісьменніка (стыль аўтара), літаратуры пэўнага напрамку (рамантычны, рэалістычны, мадэрнісцкі), твора (лірычны стыль апавядання Я. Брыля «Галя»). Ёсць паняцце «стыль эпохі» (напрыклад, XX стагоддзя), ёсць стыль раманны, эпічны, лірычны і інш. Стыль вызначае (яднае) агульныя прыметы твораў ці творчасці.

**Сюжэ́т** (ад франц. *sujet* — прадмет) — сістэма падзей, якая вызначае змест эпічных, ліра-эпічных, драматычных твораў, сродак раскрыцця характараў (М. Горкі). Сюжэты бываюць храналагічныя («Палеская хроніка» І. Мележа) і прычынна-выніковыя (творы І. Шамякіна).

**Троп** (ад грэч. *tropos* — паварот) — міні-вобраз, заснаваны на ўжыванні слова ці выразу ў пераносным значэнні (параўнанне, метафара, сінекдаха, метанімія, сімвал і інш.), нясе ў сабе адбітак уяўленняў старажытнага чалавека аб свеце, з'явах як жывых істотах.

**Траге́дыя** (ад грэч. *tragos* — казёл і *ode* — песня) — жанр драмы, што з'явіўся ў старажытныя часы паводле абраду ў гонар бога вінаградарства і віна Дыяніса, знешне падобнага на казла, а пазней — сатыра з невялікімі рожкамі і барадой. Канфлікты ў трагедыі абвостраныя, невырашальныя, прыводзяць герояў-праўдашукальнікаў ці заблытаных у жыцці да смерці. Трагедыі пісалі В. Шэкспір («Гамлет»), А. Пушкін («Барыс Гадуноў»).

**Тып** (ад грэч. *typos* — аддрукоўка, узор) — мастацкі вобраз — плён фантазійнага мыслення аўтара твора, які выяўляе галоўную сутнасць з'явы, падзеі, асобы.

**Эле́гія** (ад грэч. *elegeia* — жалобная песня, *elegos* — скарга) — верш, у якім выяўляецца смутак, журба, меланхолія з прычыны грамадскай несправядлівасці, сямейнага няшчасця і асабістага гора.

**Э́пас** (ад грэч. *epos* — слова, апавяданне) — род літаратуры, які грунтуецца на апісанні фактаў, падзей, стварэнні аб'ектывізаваных вобразаў герояў, пададзеным як бы без удзелу аўтара.

## ЗМЕСТ

### БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРШАЙ ТРЭЦІ XX СТАГОДДЗЯ (3)



### БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРЫЯДУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ (113)

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПАСЛЯВАЕННАГА ЧАСУ (да сярэдзіны 1960-х гадоў) (175)

